# АБ ЖЫЦЦІ І ТВОРЧАСЦІ

## *БІЯГРАФІЧНЫЯ І ЛІТАРАТУРНА-КРЫТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ*

878. **Аксенін, С.** «Берасцейскае вогнішча» : [у гэтай серыі выйшла кн. паэзіі А. Каско «45»] / Сымон Аксенін // ЛіМ. – 1998. – 6 сак. (№ 10). – С. 3.
879. **Аксенін, С.** Прэзентацыя кніг 2000 года : [у Брэсц. абл. бібліятэцы, вёў сустрэчу А. Каско] / Сымон Аксенін // ЛіМ. – 2000. – 8 снеж. (№ 49). – С. 3.
880. **Аксенін, С.** Справаздачны сход пісьменнікаў : [Брэсц. вобл. Сакратаром аддз-ня абраны А. Каско] / Сымон Аксенін // ЛіМ. – 1999. – 22 студз. (№ 10). – С. 3.
881. **Александров, Н.** Алесь Каско: «Я родную тут чую мову...» : [к 55-летию поэта] / Николай Александров, Алесь Каско // Брестский курьер. – 2006. – 7 дек. (№ 49). – С. 27.
882. **Алесь Каско** // Беларускія пісьменнікі (1917–1990) : давед. – Мн., 1994. – С. 269.
883. **Алесь Каско** // Памяць : гіст.-дакум. хроніка Ганц. р-на. – Мн., 1999. – С. 426–427 : фат.
884. **Алесь Каско** // Памяць : гіст.-дакум. хроніка Жабін. р-на. – Мн., 1999. – С. 471 : фат..
885. **Алесь Каско** : [карот. біяграф. даведка] // Анталогія беларускай паэзіі : у 3 т. – Мн., 1993. – Т. 3 : Вершы і паэмы. – С. 532.
886. **Алесь Каско** : [карот. біяграф. даведка] // Світязь : літ. зб. Волин. орг. Спілки письменників України. 2. – Київ, 1992. – С. 74.
887. **Алесь Каско – лаўрэат абласной прэміі ЛКСМБ** // Сельская праўда. – Жабінка, 1982. – 20 лют.
888. **Алесь Каско – лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова** // Сельская праўда. – Жабінка, 1995. – 7 чэрв.
889. **Алесь Каско (нар. у 1951 годзе)** : [аб жыцці і творчасці] // Літаратурная карта Берасцейшчыны / уклад. А. Крэйдзіч. – Брэст, 2008. – С. 159–163.
890. **Алесь Каско. «Паўлюк Багрым»** : [пра верш] // Родная літаратура ў 6 класе : вучэб.-метад. дап. для настаўнікаў. – Мн., 2000. – С. 98–101.
891. **Алесь Каско – прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР** // Сельская праўда. – Жабінка, 1984. – 22 снеж.
892. **Алесю Каско – 60** : [карот. біяграф. даведка] // Сельская праўда. – Жабінка, 2011. – 10 снеж. – С. 8.
893. **Аляксейчык, Г.** Ліцэісты сустрэліся з паэтам : [аб творчай сустрэчы з А. Каско ў ліцэі г. Жабінка] / Г. Аляксейчык // Сельская праўда. – Жабінка, 2006. – 16 верас. – С. 2.
894. **Аляксейчык, Г.** Міжнародная прэмія нашаму земляку : [прэмію імя Ганны Краснапёркі (Германія), нявольніцы фашысц. гета, пісьменніцы атрымаў А. Каско] / Г. Аляксейчык // Сельская праўда. – Жабінка, 2005. – 8 чэрв. – С. 2.
895. **Анкета «Адзін дзень майго жыцця: 14 траўня»** : Алесь Каско // Крыніца. – 1998. – № 8. – С. 88–89.
896. **Арлоў, І.** Паэт Каско адыходзіць. У прозу : [пра творчы вечар паэта А. Каско ў Брэсц. абл. бібліятэцы імя М. Горкага] / Іван Арлоў // Вечерний Брест. – 2012. – 23 марта. – С. 7.
897. **Арлова, І.** Каб помнілася твая прысутнасць у свеце :[аб уручэнні літ. прэміі У. Калесніка за калектыўны зб. паэзіі «Трохперсце»] / Ірына Арлова // Народная газета. – 2008. – 26 лістап. – С. 4.

898. **Арочка, М.** На парозе 90-х : літ. агляд / М. М. Арочка, П. К. Дзюбайла, С. С. Лаўшук. – Мн. : Навука і тэхніка, 1993. – 208 с. – Са зместу: [Пра А. Каско]. – С. 78.
899. **Баравікова, Р.** «Любоў нябёсы над табой трымае…» : [прадм. гал. рэд. да берасц. нумара часопіса «Маладосць», узгад. А. Каско] / Раіса Баравікова // Маладосць. – 2007. – № 11. – С. 3.
900. **Барысік, А.** Пад святлом зоркі Яўгеніі Янішчыц : завяршыўся літаратурны год на Брэстчыне : [у т. л. аб уручэнні літ. прэміі імя У. А. Калесніка за калектыўны зб. паэзіі «Трохперце»] / Алена Барысік, Валерый Гапееў // Івацэвіцкі веснік. – 2008. – 28 лістап. – С. 9.
901. **Барысюк, Т.** Ці ёсць чукоўскія, міхалковы і барто на Беларусі? : кн. паэзіі для дзяцей выд-ва «Мастацкая літаратура» за 2003–2005 гг. : [у т. л. кн. Алеся Каско «Два сонцы» (2005)] / Таццяна Барысюк // ЛіМ. – 2006. – 15 снеж. (№ 50). – С. 7.
902. **Беларуска-балгарскі ўзаемапераклад (1991–2008 гг.)** : бібліягр. давед. / склад. Марына Абрагімовіч ; Беларус. тав-ва дружбы і культурнай сувязі з замеж. краінамі. – Мн. : Права і эканоміка, 2009. – 70 с. – Сярод аўтараў: Алесь Каско.
903. **Беларуская дзіцячая літаратура** : вучэб. дапам. : [узгад. кн. А. Каско «Два сонцы»] / А. М. Макарэвіч [і інш.] ; пад агул. рэд. А. М. Макарэвіча, М. Б. Яфімавай. – Мн., 2008. – С. 509.
904. **Бельскі, А.** Крылы маладосці : маладая беларус. паэзія : [у т. л. А. Каско] / А. Бельскі // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1991. – № 2. – С. 50–60.
905. **Бельскі, А.** Сучасная беларуская літаратура: станаўленне і развіццё творчых індывідуальнасцяў (80–90-я гг.) : вучэб.-метад. дапам. для настаўнікаў / А. Бельскі. – Мн. : Нар. асвета, 1997. – 254 с. – Са зместу: [А. Каско]. – С. 16, 77.
906. **Бензярук, А.** Трэба ў Пінску бываць часцей : [аб уручэнні літ. прэміі імя У. Калесніка, у т. л. Алесю Каско за калектыўны зб. паэзіі «Трохперсце»] / А. Бензярук ; фота аўт. // Сельская праўда. – Жабінка, 2008. – 10 снеж.
907. **Бензярук, Р.** З Ганцавіцкага песеннага краю : Алесю Каско – 55 / Расціслаў Бензярук // Сельская праўда. – Жабінка, 2006. – 9 снеж. – С. 5.
908. **Бензярук, Р.** ...І над Жабінкай заззялі «зоркі» : [пра лаўрэатаў прэміі «Берасцейскія зоркі–2002» паэта А. Каско і акцёра І. Герасевіча] / Р. Бензярук // Сельская праўда. – Жабінка, 2003. – 25 студз.
909. **Бензярук, Р.** Каско ці Казка? : абразок : [аб паходжанні прозвішча Алеся Каско] / Расціслаў Бензярук // Народная трыбуна. – 2005. – 3 верас. (№ 35). – С. 6 ; Сельская праўда. – Жабінка, 2005. – 3 верас. – С. 4.
910. **Бібліятэка – паэту, паэт – бібліятэцы** : [карот. інфарм. аб прэзентацыі паэтычных зб. Алеся Каско «Нічога больш» і «Прыадхінуты небасхіл» у Брэсц. абл. бібліятэцы імя М. Горкага] // Сельская праўда. – Жабінка, 2012. – 24 сак. – С. 2.
911. **Борсук, Н.** «Скажы пра яго!.. Памаліся. І будзеш пачута…» : [аб вершах-прысвяч. паэтаў Берасцейшчыны М. Багдановічу, у т. л. аб вершы Алеся Каско] / Ніна Борсук // Брестский вестник. – 2007. – 24 мая (№ 21). – С. 13.
912. **Борсук, Н.** «Служыць радзіме і красе...» : [да 50-годдзя Алеся Каско] / Ніна Борсук // Заря. – 2001. – 8 дек. – С. 6.
913. **Борсук, Н.** «Усё, што бачыш, душою прымі» : (зімовыя матывы ў творчасці М. Багдановіча і паэтаў Берасцейшчыны) : [у т. л. А. Каско] / Н. М. Борсук // Традиционное и новаторское в преподавании литературы в школе и вузе : материалы междунар. науч. конф., 20–21 нояб. 2001 г. – Брест, 2002. – Ч. 1. – С. 24–28. – Библиогр.: 4 назв.

914. **Борсук, Н. М.** Канцэпт маці-мадонны ў паэтычным свеце М. Багдановіча і нашых сучаснікаў : [у т. л. А. Каско] / Н. М. Борсук // Веснік Брэсцкага ўніверсітэта. Серыя філалагічных навук. – 2005. – № 1. – С. 4–11. – Бібліягр.: 6 назв.
915. **Борсук, Н. М.** Постаць К. Каліноўскага ў асэнсаванні сучаснай беларускай паэзіі : [літ.-крытыч. арт., узгад. А. Каско] / Н. М. Борсук // Тадэвуш Касцюшка і яго час : матэрыялы міжнар. канф., прысв. 210-годдзю паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі, 20–21 мая 2004 г. / Брэсц. дзярж. ун-т імя А. С. Пушкіна. – Брэст : Выд-ва УА «БрДУ імя Пушкіна», 2004. – С. 86–91.
916. **Борсук, Н. М.** Уклад Алеся Каско ў пушкіназнаўства / Н. М. Борсук // Сборник научных материалов, посвящённых 200-летию со дня рождения А. С. Пушкина (22–23 окт. 1999 г.). – Брест, 2000. – С. 147–153.
917. **Брест и окрест.** Старая новая пасада : [А. Каско зноў абраны сакратаром Брэсц. аддз-ня Саюза беларус. пісьменнікаў, карот. інфарм.] // Вечерний Брест. – 1999. – 3 февр.
918. **Бурдыка, В.** «Можаш не пісаць – не пішы» : [пра творчы вечар паэта А. Каско ў Брэсц. абл. бібліятэцы імя М. Горкага] / Вячаслаў Бурдыка // Народная трыбуна. – 2012. – 30 сак. (№ 14). – С. 3.
919. **Бязвер’е вера пераможа** : [А. Каско і Н. Мацяш – удзельнікі др. Міжнар. Кангрэсу беларус. ПЭН-цэнтра] / гут. Іван Калянковіч // Вечерний Брест. – 1995. – 22 сент. (№ 39).
920. **Бяласін, Я.** Два паэты : таварыс. нататкі : [пра творчасць А. Каско і М. Пракаповіча] / Яўген Бяласін // ЛіМ. – 1995. – 14 ліп. (№ 28). – С. 8.
921. **Валуевіч, Т.** «Калі ў свой лёс бракуе веры, няшмат і ў слове глыбіні…» : [прэм’ера кн. А. Каско «45» у в. Чудзін і Ганцавічах] / Т. Валуевіч ; фота А. Стрыжыча // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 1998. – 4 крас.
922. **Валуевіч, Т.** Чудзін – вёска паэтычная : [прэм’ера кн. А. Каско «45» у Чудзіне] / Т. Валуевіч // ЛіМ. – 1998. – 5 чэрв. (№ 23). – С. 8.
923. **Віншуем!** : [А. Каско з літ. прэміяй] // Народная трыбуна. – 1995. – 10 чэрв. (№ 39).
924. **Віншуем з узнагародай!** : [у Алеся Каско – ганаровая грамата абл. Савета дэпутатаў] // Народная трыбуна. – 2001. – 15 снеж. (№ 100).
925. **Волкович, А.** Ласточкам даны крылья, а живут они под нашими крышами : [о праздновании 60-летия Е. Янищиц в Пинске и Пин. р-не и вручении лит. премии им. В. Колесника за коллективный сб. поэзии «Трохперсце»] / Александр Волкович // Брестский курьер. – 2008. – 27 нояб. (№ 48). – С. 10.
926. **Вывучэнне аглядавых тэмаў па беларускай літаратуры** / аўт.-склад.: В. Я. Ляшук, Г. М. Снітко. – Мн. : ТАА “Юніпрэс”, 2001. – 240 с. – Са зместу: [Алесь Каско]. – С. 21, 25.
927. **[Выйшла ў свет новая кніга лаўрэата Літ. прэміі імя А. Куляшова А. Каско «45»]** // Сельская праўда. – Жабінка, 1997. – 17 снеж.
928. **Галубовіч, Л.** На вяршыні дзён : штрыхі да творчага партр. Алеся Каско / Леанід Галубовіч // Дзеяслоў. – 2011. – № 6. – С. 290–295.
929. **Ганчук, А.** «Трохперсце» ў Жабінцы : [аб прэзентацыі калектыўнага зб. паэзіі «Трохперсце», узгад. А. Каско] / Аляксей Ганчук ; фота аўт. // ЛіМ. – 2009. – 29 мая (№ 20). – С. 3.
930. **Гарагляд, Н.** Алесю Каско – 50 / Ніна Гарагляд // Навіны Камянеччыны. – 2001. – 15 снеж.

931. **Гардзей, В.** Вершы, напісаныя ў Белых Бярэзніках : да 70-годдзя з дня нараджэння Міколы Купрэева : [узгад. А. Каско] / Віктар Гардзей // Маладосць. – 2007. – № 5. – С. 118–125.
932. **Гардзей, В.** Лань – рака паэтычная : [аб творчасці] / Віктар Гардзей // Полымя. – 2012. – № 2. – С. 158–162.
933. **Гардзей, В.** Лань – рака паэтычная : Алесю Каско – 50 : [аб творчасці] / Віктар Гардзей // ЛіМ. – 2001. – 7 снеж. (№ 49). – С. 8.
934. **Гардзей, В.** Лань – рака паэтычная : літ.-біяграф. нарыс / Віктар Гардзей // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 2011. – 10 снеж., 14 снеж. – С. 4.
935. **Гардзей, В.** Як прыходзіць сталасць : [пра творчасць А. Каско] / Віктар Гардзей // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 1980. – 15 крас.
936. **Гардзіенка, П.** Землякі заўсёды разам : [вечар А. Каско і М. Пракаповіча ў Доме літаратараў у Мінску] / П. Гардзіенка // ЛіМ. – 1992. – 18 снеж. (№ 39). – С. 13.
937. **Гедзік, Г.** Скрыпка і рапіра : абрыс творч. партр. Алеся Каско / Галіна Гедзік // ЛіМ. – 1998. – 16 кастр. (№ 42). – С. 6–7.
938. **Гілевіч, Н.** Любоў прасветлая: роздумы ў вершах і прозе аб роднай мове : лірыка-публіцыст. хроніка, 1947–1995 / Ніл Гілевіч. – Мн. : Навука і тэхніка, 1996. – 544 с. – Са зместу: [А. Каско]. – С. 210.
939. **Гілевіч, Н.** Покліч жыцця і часу : публіцыст. выступленні і арт. / Ніл Гілевіч. – Мн. : Беларусь, 1983. – 239 с. – Са зместу: [А. Каско]. – С. 109.
940. **Гніламёдаў, У.** Ад даўніны да сучаснасці : нарыс пра беларус. паэзію : [у т. л. А. Каско] / У. Гніламёдаў. – Мн. : Маст. літ., 2001. – С. 209, 240.
941. **Гніламёдаў, У.** Публіцыстыка і медытацыі : [у т. л. пра творчасць А. Каско як паэта лірыка-філасафіч. складу] / Уладзімір Гніламёдаў // Полымя. – 1991. – № 3. – С. 246–247.
942. **Гніламёдаў, У.** «...Твой крок чуваць» : [у т. л. пра творчасць А. Каско] / Уладзімір Гніламёдаў // ЛіМ. – 1983. – 10 чэрв. (№ 23). – С. 5, 6–7.
943. **Городская панорама** : [літ. вечарына-сустрэча ў Брэсц. абл. бібліятэцы імя М. Горкага з В. Сахарчуком і А. Каско] // Вечерний Брест. – 1995. – 24 марта. – С. 1.
944. **Городская панорама** : [Літ. прэмія імя А. Куляшова за 1994 г. А. Каско за зб. «Час прысутнасці»] // Вечерний Брест. – 1995. – 2 июня.– С. 1.
945. **Гришковец, В.** Сеять – значит жить : [творчество А. Каско] / Валерий Гришковец // Заря. – 2004. – 23 окт.
946. **Грышкавец, В.** Пачынаецца ўсё з любові... : [аб святкаванні 60-годдзя Я. Янішчыц у Пінску і Пін. р-не і ўручэнні літ. прэміі У. Калесніка за калектыўны зб. паэзіі «Трохперсце»] / Валерый Грышкавец // Заря. – 2008. – 25 нояб. – С. 1–2.
947. **Грышкевіч, С.** Сэрца, словам абуджанае... : [карот. інфарм. аб прэзентацыі зб. А. Каско «Трохкроп'е» у БрДУ імя А. Пушкіна] / Сяргей Грышкевіч // Заря. – 2002. – 22 янв.
948. **Густ традыцыі** : [карот. інфарм. аб сустрэчы з А. Каско ў БрДУ імя А. Пушкіна] // Народная трыбуна. – 2002. – 16 сак. (№ 11).
949. **Дамарацкая, І.** Зборнік «Трохперсце» – літаратурная жамчужына : [прэзентацыя зб. вершаў «Трохперсце» у Ганц. раён. бібліятэцы імя В. Праскурава] / Ірына Дамарацкая // Ганцавіцкі час. – 2008. – 5 снеж. (№ 49). – С. 2.
950. **Дамарацкая, І.** Паэт прызнаўся ў каханні : [аб прэзентацыі кнігі А. Каско «Нічога больш» ў Ганц. кінатэатры «Маладосць»] / Ірына Дамарацкая // Ганцавіцкі час. – 2012. – 27 крас. (№ 17). – С. 4.

951. **21 снежня 2001 года** : літ. вечар да 20-годдзя Брэсц. абл. аддз-ня Саюза беларус. пісьменнікаў і 50-годдзя паэта Алеся Каско : [плакат-абʼява]. – Брэст, 2001.

952. **Дедок, В.** Писатели области подводят итог : [по материалам отчёта А. Каско на отчёт.-выбор. конф. обл. отд. Союза белорус. писателей] / Валерий Дедок // Полесская правда. – Пинск, 2001. – 10 окт.

953. **Дзімітруковіч, В.** Мы гасцям заўсёды рады : [аб сустрэчы чытачоў з А. Каско, М. Купрэевым, М. Папекам і У. Ягоўдзікам у Пружан. дзіц. бібліятэцы] / Вольга Дзімітруковіч ; фота Аляксандра Мелеша // Раённыя будні. – Пружаны, 2001. – 10 лістап. – С. 2.

954. **Дулевіч, Т.** «І не знікаць паэтам вечна…» : [аб удзеле Алеся Каско ў літ.-муз. кампазіцыі, прысв. У. Караткевічу, ў дзіц. бібліятэцы г. Жабінка] / Т. Дулевіч // Сельская праўда. – Жабінка, 2010. – 1 снеж.

955. **Жуковіч, В.** З Алесем Каско брэсцкія пісьменнікі не прападуць… : [дзейнасць Брэсц. абл. аддз-ня СП Беларусі] / Васіль Жуковіч // Народная Воля. – 1998. – 1 крас.

956. **З узнагародай!** : [А. К. Каско узнагар. Ганар. граматай Міністэрства культуры і друку Рэсп. Беларусь за добрасумлен. і плённую працу на ніве перыядыч. друку Беларусі] // Сельская праўда. – Жабінка, 1994. – 10 верас.

957. **Задарожны, С.** Сустрэчы з паэзіяй : [пра сустрэчу з А. Каско ў Жабін. раён. бібліятэцы] / С. Задарожны ; фота І. Жук // Сельская праўда. – Жабінка, 2002. – 13 лют.

958. **Казанская, М.** Служенье муз не терпит суеты : [о лит. встрече с писателями Брестчины, которая прошла на ОАО «Берёзовский сыродельный комбинат», среди приглашённых – А. Каско] / Мария Казанская ; фото Леонида Гречко // Маяк. – Берёза, 2007. – 3 марта. – С. 3.

959. **Калайдзенка, А.** Ліцэй вітаў паэтаў : [сустрэча пісьменнікаў А. Каско, Я. Сергіені і А. Паплаўскага з навучэнцамі ліцэя г. Жабінка] / Алена Калайдзенка // Сельская праўда. – Жабінка, 2012. – 11 лют. – С. 3.

960. **Калеснік, У.** Паэтаў лёс і воля вольніца : [пра творчасць А. Каско] / Уладзімір Калеснік // Полымя. – 1994. – № 12. – С. 211–227.

961. **Каско, А.** Алесь Каско, паэт, адказны сакратар Брэсцкага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў : «Я стаў лаўрэатам Мядовай прэміі імя Міколы Папекі» : [аб дасягнутым у мінулым годзе і планах на будучы] // Сельская праўда. – Жабінка, 2001. – 29 снеж.

962. **Каско Алесь** / В. І. Козіч // Беларускія пісьменнікі : біябібліягр. слоўнік : у 6 т. – Мн., 1994. – Т. 3 / пад. рэд. А. В. Мальдзіса. – С. 207–208.

963. **Каско Алесь** (Аляксандр Канстанцінавіч) // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. – Мн., 1999. – Т. 8. – С. 143.

964. **Каско Алесь Канстанцінавіч** // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі : у 5 т. – Мн., 1995. – Т. 3. – С. 11.

965. **Каско Аляксандр Канстанцінавіч** / А. В. Башчук // Памяць : гіст.-дакум. хроніка Брэста : у 2 кн. – Мн., 2001. – Кн. 2. – С. 652–653.

966. **Каско, А.** Сакратар абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Каско: «Кніга будзе жыць!» : абл. аддз-ню беларус. пісьменнікаў – 20 / Алесь Каско ; гут. Сяргей Грышкевіч // Заря. – 2001. – 6 окт.

967. **Каско, А.** Мы існуем, каб духоўна трымалася беларускае грамадства / [Алесь Каско] ; інтэрвʼю ўзяла Тамара Лісічык // Брестский курьер. – 2006. – 26 окт. (№ 43). – С. 5.

968. **Каско, А.** Нельга бульдозерам угрызацца ў слова. Яно было першым : [пра сваю дзейнасць і творчасць] / [Алесь Каско] ; гут. вяла Тамара Лісічык // Брестский курьер. – 2005. – 20 янв. (№ 4). – С. 8.
969. **Каўко, А.** «Плынь творчасці няхай не абмялее…» : [інтэрв'ю з А. Каўко і В. Кухарчуком, з нагоды юбілею літ. аб'яд-ня «Ясельда» пры Іван. раён. газ. «Чырвоная звязда», узгад. А. Каско] / Аляксей Каўко, Валерый Кухарчук // Гоман. – 2006. – Вып. 3. – С. 342–343.
970. **Козіч, В.** Шчырасць – адзнака таленту : пра паэзію А. Каско / Вольга Козіч // Роднае слова. – 2001. – № 1. – С. 98–99.
971. **Коршунов, С.** Многолетний опыт сохранили на диск : [о диске «Постаці» с видеозаписями известных культурных деятелей Брестчины и Гродненщины, в т. ч. А. Каско] / Станислав Коршунов // Брестская газета. – 2010. – 22 окт. (№ 43). – С. 2.
972. **Краса і сіла** : Алесь Каско (нар. 1951) : [карот. біягр. даведка; ёсць фота] // Звязда. – 2001. – 6 кастр. – С. 6.
973. **Крэйдзіч, А.** На трывалым падмурку : [аб літ. вандроўцы па вобл. членаў Брэсц. аддз-ня СПБ; узгад. А. Каско] / Анатоль Крэйдзіч // Маладосць. – 2006. – № 11. – С.10–14.
974. **Крэйдзіч, А.** Падсумавалі зробленае : [у т. л. аб чарговым абранні А. Каско сакратаром Брэсц. абл. аддз-ня Саюза беларус. пісьменнікаў] / Анатоль Крэйдзіч // ЛіМ. – 2001. – 12 кастр. (№ 41). – С. 3.
975. **Крэйдзіч, А.** Пісьменніцкая суполка не толькі расце, але і маладзее… : [у т. л. аб чарговым абранні А. Каско сакратаром Брэсц. абл. аддз-ня Саюза беларус. пісьменнікаў] / Анатоль Крэйдзіч // Чырвоная змена. – 2001. – 6 лістап. – С. 7.
976. **Купрэеў, М.** Абрысы творчай постаці пісьменніка : гут. Леаніда Галубовіча з Міколам Купрэевым, якая адбылася на пач. 1994 г. : [узгад. А. Каско] / Леанід Галубовіч, Мікола Купрэеў // Палеская элегія : аповесці / Мікола Купрэеў ; уклад. Л. М. Галубовіч. – Мн., 2007. – С. 5–15. – (Лімаўскі фальварак).
977. **Курбанава, Г.** З паэтамі сустрэліся рабяты : [сустрэча з паэтамі А. Каско і В. Сахарчуком у дзіц. бібліятэцы] / Г. Курбанава // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 1994. – 25 кастр.
978. **Ладуцька, К.** Дзе знаходзяцца крыніцы… : [прэзентацыя зб. вершаў «Трохперсце»] / Кастусь Ладуцька // ЛіМ. – 2008. – 26 снеж. (№ 52). – С. 3.
979. **Лайкоў, Я.** Залацінкі сярод слоўнай руды : [у т. л. пра апавяданне Алеся Каско «Прывідная камандзіроўка» («Маладосць», 2010, № 6)] / Янка Лайкоў // ЛіМ. – 2010. – 23 ліп. (№ 29). – С. 7.
980. **Лаўрэаты літаратурных прэмій** : [у т. л. прэміі імя А. Куляшова, А. Каско – за кн. «Час прысутнасці»] // ЛіМ. – 1995. – 2 чэрв. (№ 22). – С. 3.
981. **Лаўрэаты прэміі імя У. Калесніка** : [карот. інфарм. аб уручэнні прэміі лаўрэатам 2008 г., у т. л. А. Каско] // Сельская праўда. – Жабінка, 2008. – 22 лістап. – С. 2.
982. **Лісічык, Т.** Прэмія прымірэння для берасцейскага паэта : [Міжнар. прэмію імя Ганны Краснапёркі (Германія), нявольніцы фашысц. гета, пісьменніцы атрымаў А. Каско] / Тамара Лісічык // Брестский курьер. – 2005. – 2 июня (№ 23). – С. 10.
983. **Літаратурнае аб'яднанне «Плынь»** : [у т. л. пра А. Каско] / падрыхт. Васіль Сахарчук // Сельская праўда. – Жабінка, 1995. – 10 чэрв.
984. **Локтыш, С.** Сустрэча ў бібліятэцы : [прэзентацыя зб. вершаў «Трохперсце» М. Рудкоўскага, М. Пракаповіча, А. Каско ў Ганц. раён. бібліятэцы імя В. Праскурава] / тэкст і фота Святланы Локтыш // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 2008. – 3 снеж.

985. **Ляшук, В. Я.** Літаратары-выпускнікі Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна : [у т. л. А. Каско] / В. Я. Ляшук, Г. М. Снітко // Літаратура Берасцейшчыны / В. Я. Ляшук, Г. М. Снітко. – Брэст, 1999. – С. 313–315.
986. **Ляшук, В. Я.** Літаратурная Берасцейшчына : краязн. нарысы, партр., арт. / В. Я. Ляшук, Г. М. Снітко. – Мн. : Литература и искусство, 2008. – 320 с. : іл. – Імянны паказальнік: с. 311–315.
987. **Майсейчык, А. А.** Вяртанне да родных вытокаў : [аб творчасці паэта А. Каско] / А. А. Майсейчык // Веснік Брэсцкага ўніверсітэта. – 2001. – № 3. – С. 49–58.
988. **Майсейчык, А. А.** Ля крынічных вытокаў паэзіі А. Каско / А. А. Майсейчык // Праблемы сучаснай беларусікі : матэрыялы навук. канф., прысв. 75-годдзю У. А. Калесніка. – Брэст, 1999. – С. 3–5. – (Брэсц. дзярж. ун-т).
989. **Макасюк, В.** «Купалу, Багдановіча – люблю...» : [пра вечарыну, прысв. 55-годдзю паэта А. Каско, у Жабін. раён. бібліятэцы] / В. Макасюк, М. Плечка // Сельская праўда. – Жабінка, 2007. – 13 студз. – С. 5.
990. **Мельнікава, З.** Беларуская справа і Польшча паводле публіцыстыкі Я. Купалы і З. Бядулі 1919–1920 гг. : [літ.-крытыч. арт., узгад. фрагмент верша А. Каско] / Зоя Мельнікава // Польска-беларускія моўныя літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі / пад рэд. М. Кандрацюка, Б. Сегеня. – Беласток, 2004. – Т. 6 : Матэрыялы XI Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Шлях да ўзаемнасці». Беласток, 18–20. VII. 2003. – С. 297–307.
991. **Мельнікава, З.** «Песняры – ваяры, як няма каму стаць ваярамі...» : паэзія Алеся Каско, лаўрэата Літ. прэміі імя Аркадзя Куляшова / Зоя Мельнікава // Маладосць. – 2003. – № 8. – С. 131–140.
992. **Мельнікава, З.** Часопіс «Тэрмапілы» (2004–2007 гг.) і сучасны беларускі літаратурны працэс : [літ.-крытыч. арт., узгад. А. Каско] / Зоя Мельнікава // Тэрмапілы. – Беласток, 2008. – № 12. – С. 329–332.
993. **Мікалаеў, А.** Даў Бог талент. Каб яшчэ і грошай хто падкінуў : нататкі са справ.- выбар. сходу літаратараў Берасцейшчыны : [сакратаром Брэсц. абл. аддз-ня Саюза беларус. пісьменнікаў абраны А. Каско] / Анатоль Мікалаеў // Заря. – 1999. – 30 янв.
994. **Михальчук, Л.** «Будзьма» – с литературой : [упом. А. Каско как лауреат лит. премии В. Колесника] / Лариса Михальчук // Белорусы и рынок. – 2008. – 8 дек. (№ 49). – С. 26.
995. **Мохар, К.** Яшчэ не спета лепшая песня... : [аб прэзентацыі кнігі А. Каско «Нічога больш» у Ганц. кінатэатры «Маладосць»] / Кастусь Мохар // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 2012. – 28 крас. – С. 4.
996. **Мяснянкина, А.** «Трохперсце» – наша общая победа : [интервью с зам. директора по науч. раб. Брест. обл. б-ки им. М. Горького А. Мяснянкиной, упом. сб. «Трохперсце»] / Алла Мяснянкина // Вечерний Брест. – 2008. – 25 июля. – С. 5.
997. **Непазбежнасць навізны** : анкета «ЛіМа» / А. Каско // ЛіМ. – 1992. – 3 студз. (№ 1). – С. 6.
998. **Новы паэтычны зборнік А. Каско** : [карот. інфарм. аб прэзентацыі зб. «Трохкроп'е» ў БрДУ імя А. Пушкіна] // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 2002. – 26 студз.
999. **Паплаўскі, А.** З юбілеем, спадар Алесь! // Выток. – Лунінец, 2012. – № 1. – С. 3.
1000. **Пашкевіч, А.** Літаратура, як нацыянальная ідэя : [дакл. старш. ГА «Саюз беларус. пісьменнікаў» А. Пашкевіча, прачытаны на чарговым XV справ.-выбар. з'ездзе 22 кастр. 2006 г., узгад. А. Каско] / Алесь Пашкевіч // Наша слова. – 2006. – 27 снеж. (№ 52). – С. 5, 6–7.

1001. **Паэтычныя галасы Брэстчыны.** – Брэст, 1991. – 55 с. – Са зместу: [Алесь Каско]. – С. 38–41.

1002. **Платонава, І.** «Першацвет» праз тры гады : (агляд выдання маладых літаратараў Беларусі) : [узгад. А. Каско] / І. Платонава // Наша слова. – 1995. – 18 кастр. (№ 42). – С. 3.

1003. **Праневіч, Г.** Місія паэта : споўнілася 50 гадоў Алесю Каско / Генадзь Праневіч // Брестский курьер. – 2002. – 3–9 янв. (№ 1). – С. 4–5.

1004. **Праневіч, Г.** Місія паэта : [пра паэзію Алеся Каско] / Генадзь Праневіч // Радаводнае дрэва Прыпяці. – Брэст, 2002. – С. 46–53.

1005. **Прыняты ў СП БССР** : [А. Каско] // ЛіМ. – 1984. – 14 снеж. (№ 50). – С. 2.

1006. **Прэзентацыя кнігі Алеся Каско** : [карот. інфарм.] // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 2012. – 18 крас. – С. 1.

1007. **Ракіцкі, М.** Залацінкі дзіцячай мудрасці : [аб прэзентацыі кн. А. Каско «Два сонцы» ў Жабін. раён. дзіц. бібліятэцы] / М. Ракіцкі // Сельская праўда. – Жабінка, 2005. – 5 сак. – С. 4.

1008. **Раманава, Т.** Чытачы «ажывілі» казку : [аб пастаноўцы казкі А. Каско «Чыстага ўсё нячыстае баіцца» ў Жабін. раён. дзіц. бібліятэцы] / Т. Раманава ; фота І. Жук // Сельская праўда. – Жабінка, 2012. – 6 студз.

1009. **Роднае слова будзе жыць...** : [аб уручэнні літ. прэміі імя У. Калесніка аўт. зб. паэзіі «Трохперсце»] / фота Галіны Мазінай // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 2008. – 3 снеж.

1010. **Сахарчук, В.** Алесю Каско – 50 : [прадм. да падборкі вершаў А. Каско, карот. біягр. паэта] / В. Сахарчук // Сельская праўда. – Жабінка, 2001. – 8 снеж.

1011. **Свістуновіч, С.** «Як ні ёсць, а родны край – святыня...» : паэту Алесю Каско – 60 : [аб творчасці] / Сымон Свістуновіч // Звязда. – 2011. – 10 снеж. – С. 6.

1012. **Свята паэтычнага слова** : [прэзентацыя кн. А. Каско «Нічога больш» у Ганцавічах] // Информ-прогулка. – Лунинец, 2012. – 26 апр. (№ 17). – С. 11.

1013. **Сіўко, Ф.** Праўдзівае смяхоцьце : (з новых запісаў) : [узгад. А. Каско] / Франц Сіўко // Наша Ніва. – 2006. – 29 верас. (№ 35). – С. 40–41.

1014. **«Служыць Радзіме і красе...»** // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 2001. – 15 снеж.

1015. **Сустрэча з паэзіяй** : [вечарына А. Каско і В. Сахарчука у Брэсц. абл. бібліятэцы імя М. Горкага] // Сельская праўда. – Жабінка, 1995. – 1 крас.

1016. **Три номинации на четверых** : [о лауреатах лит. премии им. В. Колесника в 2008 г., среди них – авт. сб. «Трохперсце»] // Вечерний Брест. – 2008. – 21 нояб. – С. 1.

1017. **Трэцяя прэмія – у Алеся Каско** : [за апавяданне «Ид...цем» у конкурсе карот. апавяданняў, аб'яўл. Саюзам беларус. пісьменнікаў і рэд. газ. «Звязда»] // Сельская праўда. – Жабінка, 1994. – 26 сак.

1018. **Тураў, У.** «Прыадхінуты небасхіл» Алеся Каско : [пра творчы вечар паэта А. Каско ў Брэсц. абл. бібліятэцы імя М. Горкага (20 сак.)] / Уладзімір Тураў // Заря. – 2012. – 22 марта. – С. 2.

1019. **Тураў, У.** «Я сумленны ў сваёй паэзіі» : вядомаму паэту Алесю Каско сёння спаўняецца 60 гадоў. Віншуем! : [аб творчасці Алеся Каско, карот. біягр.] / Уладзімір Тураў // Заря. – 2011. – 10 дек. – С. 9.

1020. **Тычко, Г.** «Сьлед на цэлы век...» : мае сустрэчы з Уладзімірам Калеснікам : [аб У. А. Калесніку, узгад. Алесь Каско] / Галіна Тычко // Дзеяслоў. – 2007. – № 2. – С. 285–289.

1021. **Уладзімір Калеснік, Алесь Каско і Мікола Пракаповіч, 1983** / фота М. Барценева // Дзень паэзіі–88. – Мн., 1988. – С. 225.
1022. **Філатаў, А.** «Паўналадныя» паўвеку Алеся Каско : [аб творчасці А. Каско] / Аляксей Філатаў // Заря над Бугом. – Брест, 2001. – 8 дек.
1023. **Філатаў, А. Г.** Не забуду вас, хлопцы : [успаміны аб пісьменніках Берасцейшчыны, у т. л. аб А. Каско] // Страла жыцця : мініяцюры, апавяданні, нар. гумар, аповесці, вершы / Аляксей Філатаў. – Брэст, 2007. – С. 54–108.
1024. **Целеш, Л.** Чудзінскі паэт : [пра А. Каско] / Лявон Целеш // Краязнаўчая газета. – 2011. – Снеж. (№ 46). – С. 5.
1025. **Целеш, Л.** Шчодры талент : [да 60-годдзя беларус. паэта і пер. А. Каско] / Лявон Целеш // ЛіМ. – 2011. – 16 снеж. (№ 50). – С. 6.
1026. **Целеш, Л.** Юбілей беларускага паэта Алеся Каско / Лявон Целеш // Наша слова. – 2011. – 14 снеж. (№ 50). – С. 2.
1027. **Чабан, Т.** Авансы маладосці – і сталасці даўгі... : [паэзія 80-х гадоў. Сярод аўт. – А. Каско] / Тамара Чабан // Дзень паэзіі–1990. – Мн., 1990. – С. 216–224.
1028. **Чабан, Т.** Вернасць вытокам : маладая беларус. паэзія, год 1980 : [у т. л. творчасць А. Каско] / Тамара Чабан // Маладосць. – 1981. – № 3. – С. 176–183.
1029. **Чарота, А.** Каб заўжды былі з намі : [карот. рэц. на кн. В. Гадулькі «Голас», узгад. А. Каско] / А. Чарота // Маладосць. – 2005. – № 7. – С. 152.
1030. **«Чыстага ўсё нячыстае баіцца»** : [аб. прэм'еры кн. у Пружан. дзіц. бібліятэцы] // Сельская праўда. – Жабінка, 2001. – 28 лістап.
1031. **Шаўлякова, І.** Portrait de famille на фоне поўні і сонечнага зацьмення : часопіс. паэзія 2001 года : [у т. л. А. Каско] / Ірына Шаўлякова // Маладосць. – 2003. – № 2. – С. 116–129.
1032. **Ягоўдзік, У.** «Паэзія – акі пціца…» : [успаміны пра М. Рудкоўскага, узгад. А. Каско] // Ягоўдзік, У. І. Шчыраю ноччу : проза / Уладзімір Ягоўдзік ; маст. П. Ю. Татарнікаў. – Мн., 2009. – С. 146–152.
1033. **Яніцкі, М.** Калі, зямля, тваё прызванне – нас нарадзіць і пахаваць, дык жыць – людзей наканаванне… : [біягр. і творчасць А. Каско] / Міхаіл Яніцкі // Савецкае Палессе. – Ганцавічы, 2011. – 21 мая. – С. 3.
1034. **Яўсовіч, К.** Сустрэча з паэтам : [аб сустрэчы ў Маціевіцкай базавай школе ў Дзень беларус. пісьменства з паэтам А. Каско] / К. Яўсовіч, Н. Кабась // Сельская праўда. – Жабінка, 2010. – 11 верас. – С. 3.

### *ВЕРШЫ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ А. КАСКО*

1035. **Аляхновіч, М.** Досвітак: А. Каско // Жыццёвае веры прадзіва : вершы / Мікола Аляхновіч. – Брэст, 2006. – С. 87.
1036. **Арабейка, І.** Алесю Каско / Іван Арабейка // Жырандоля : літ. альманах Брэсц. абл. аддз-ня. Саюза беларус. пісьменнікаў / рэдкал.: Л. Валасюк (гал. рэд.) [і інш.] ; уклад. А. Філатаў. – Брэст, 2010. – № 3. – С. 70.
1037. **Арабейка, І.** Алесю Каско / Іван Арабейка // Новы час. – 2011. – 22 ліп. (№ 29). – С. 13 (Дадат.: Літ. Беларусь ; вып. № 7).
1038. **Бензярук, Р.** Без снегу, без марозу...: Алесю Каско // Вясёлка сяміколерная : вершы і пераклады / Расціслаў Бензярук. – Брэст, 2005. – С. 33 ; Тэрмапілы. – Беласток, 2007. – № 11. – С. 118.

1039. **Вашэка, В.** «Адраджаецца душа…» / Вінцэсь Вашэка // Крыніца. – 1996. – № 7. – С. 96.

1040. **Вашэка, В.** Душа: Алесю Каско / Вінцэсь Вашэка // Лампаднае святло : вершы / Вінцэсь Вашэка. – Брэст, [2000]. – С. 37 ; Заря. – 2008. – 24 янв. (№ 8). – С. 8 ; Маладосць. – 2008. – № 11. – С. 51.

1041. **Галаскок, А.** «Здалёк спрытна кінуў ласо…» : Алесю Каско (да 60-годдзя) / Аляксей Галаскок // Ганцавіцкі час. – 2012. – 8 чэрв. (№ 23). – С. 8.

1042. **Ганчук, А.** «Мы адчынім маленькія сенцы...»: Алесю Каско // Белы ганак : зб. вершаў / Аляксей Ганчук. – Брэст, 2010. – С. 35.

1043. **Ганчук, А.** «Прыадчынім маленькія сенцы…» / Аляксей Ганчук // Сельская праўда. – Жабінка, 2007. – 8 верас.

1044. **Ганчук, А.** «Прыадчынім маленькія сенцы…»: Алесю Каско / Аляксей Ганчук // ЛіМ. – 2009. – 13 лют. (№ 6). – С. 8.

1045. **Григорович, Я.** О газете «Заря»: Каско Алесю, Крейдичу Анатолию, Иванову Александру // Когда сердце полно вдохновения… : стихи / Янина Григорович. – Брест, 2007. – С. 46.

1046. **Дэбіш, В.** «З вершамі сшытак юначы гартаю…» // Лісты да Марыі : вершы / Васіль Дэбіш. – Мн., 1996. – С. 101.

1047. **Жмінько, К.** «Маё сэрца ляціць вінавата...»: Алесю Каско // Наканаваны неспакой : вершы / Кастусь Жмінько. – Гайнаўка ; Брэст, 2008. – С. 67.

1048. **Жук, Р.** Алесю Каско / Рыгор Жук // Информ-прогулка. – Лунинец, 2012. – 24 мая (№ 21). – С. 11.

1049. **Замуравкин, И.** «Одиночество двери откроет…» / Игорь Замуравкин // Заря. – 1995. – 4 апр.

1050. **Лагвіновіч, І.** Песня каласковая: Алесю Каско // Палыновыя кветкі : вершатворы / Іван Лагвіновіч. – Баранавічы, 2007. – С. 5.

1051. **Лебедзеў, У.** «Ідзе, ідзе ўжо новае стагоддзе…»: А. Каско // Восеньская ралля : вершы / Уладзімір Лебедзеў. – Брэст, 2004. – С. 35.

1052. **Лебедзеў, У.** Магелан: Алесю Каско // Несціханае рэха : зб. паэзіі / Уладзімір Лебедзеў. – Брэст, 2013. – С. 66.

1053. **Мазько, А.** «Вока воран ворану не выклюе…»: Алесю Каско / Андрэй Мазько // Раённыя будні. – Пружаны, 2001. – 26 мая. – С. 4.

1054. **Мацяш, Н.** Стралок: Алесю Каско / Ніна Мацяш // Заря. – 2003. – 20 сент.

1055. **Мацяш, Н.** «Што было, і што ёсць, і што будзе…» // Я вас люблю : вершы-прысвячэнні / Ніна Мацяш. – Брэст, 1998. – С. 40.

1056. **Мураўскі, Я.** Алесю Каско – 60 / Ян Мураўскі // Жырандоля : літ. альманах Брэсц. абл. аддз-ня. Саюза беларус. пісьменнікаў / рэдкал.: М. Сянкевіч (гал. рэд.) [і інш.]. – Брэст, 2012. – № 4. – С. 284.

1057. **Парчук, Н.** «Трохперсце»: Міхасю Рудкоўскаму, Міколу Пракаповічу, Алесю Каско ; Просьба: Алесю Каско // Зарунее жыта зноў... : вершы, афарызмы, пер. з рус. мовы / Надзея Парчук. – Мн., 2010. – С. 76–77.

1058. **Пракаповіч, М.** «Ну што, мой дружа, зноў не ў тыя сані...» // Неад'емнае / Мікола Пракаповіч. – Мн., 1982. – С. 11 ; Маладосць. – 1982. – № 8. – С. 4.

1059. **Прокопович, М.** Друг / Микола Прокопович ; пер. с белорус. Петра Кошеля // Нёман. – 1985. – № 1. – С. 64.

1060. **Сахарчук, В.** Жыццё / Васіль Сахарчук // Заря. – 1996. – 14 нояб. ; 1998. – 10 февр. ; Маладосць. – 1998. – № 8. – С. 103–104.
1061. **Сідорка, Н.** Варта : [балада] / Насця Сідорка // Сельская праўда. – Жабінка, 2012. – 25 лют. (№ 16). – С. 8.
1062. **Сідорка, Н.** Варта : (балада): прысвячаецца Алесю Каско // Пялёсткі / Насця Сідорка. – Брэст, 2013. – С. 28–29. – (Брестский курьер рекомендует).
1063. **Станкевич, А.** Камень / Анатолий Станкевич // На крыльях страдающей совести : стихи / Анатолий Станкевич. – Брест, 1996. – С. 32.
1064. **Станкевич, А.** Поле / Анатоль Станкевич // Заря. – 1999. – 4 февр.

### *ПАРОДЫІ НА ВЕРШЫ А. КАСКО*

1065. **Грышкевіч, С.** Грунтоўнае каханне / Сяргей Грышкевіч // ЛіМ. – 2004. – 30 ліп. (№ 31). – С. 13.
1066. **Зэкаў, А.** Калі ажыла душа… / Анатоль Зэкаў // ЛіМ. – 2005. – 29 крас. (№ 17). – С. 13.
1067. **Марук, У.** Давайце не будзем / Уладзімір Марук // Полымя. – 1997. – № 8. – С. 318.
1068. **Ненадавец, А.** Ода згубленаму гімну / Аляксей Ненадавец // Першацвет. – 1993. – № 2. – С. 123 ; Наша слова. – 1995. – 4 кастр. (№ 40). – С. 8.
1069. **Правасуд, У.** Згадка / Уладзімір Правасуд // Анталогія беларускай пародыі : у 2 ч.— Мн., 2001. — Ч. 1 : Вершы / уклад. і прадм. А. Кудласевіча. – С. 178 ; Любоў без узаемнасці / Уладзімір Правасуд. – Мн., 1979. – С. 84–85.
1070. **Саковіч, П.** Мышы з густам / Павел Саковіч // Полымя. – 2001. – № 4. – С. 317–318.
1071. **Шымук, В.** Пад прымусам / Віктар Шымук // Анталогія беларускай пародыі : у 2 ч. – Мн., 2001. – Ч. 1 : Вершы / уклад. і прадм. А. Кудласевіча. – С. 179.
1072. **Юрчанка, Г.** Знялі / Георгій Юрчанка // Полымя. – 1994. – № 3. – С. 256.
1073. **Юрчанка, Г.** Тварам да гары / Георгій Юрчанка // Маладосць. – 1996. – № 3. – С. 254.

### *МЕТАДЫЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ І БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ ПАКАЗАЛЬНІКІ*

1074. **Берасцейская зорка** : літ. вечарына да 55-гадовага юбілею А. Каско. – Пружаны : ЦРБ, 2006. – 7 с.
1075. **Заручаныя Музай векавечнай…** : сцэнарый прэзентацыі зб. «Трохперсце». – Ганцавічы : ЦРБ, 2008. – 5 с.
1076. **«Зірнуць у акно…»** : прэм'ера кнігі А. Каско "45". – Жабінка : ЦРБ, 1998. – 4 с.
1077. **І не знікаць паэтам вечна : творчасць паэтаў-юбіляраў М. Рудкоўскага, А. Каско, В. Гардзея** : тэматычны агляд літаратуры. – Брэст : ГЦБС, бібліятэка «Юнацтва», 2002. – 15 с.
1078. **«Іду я чэрпаць сутнасць святла…»** : творчасць Алеся Каско : бібліягр. і метад. матэрыялы / Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага, Аддзел краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі, Аддзел бібліятэказнаўства ; склад.: Т. С. Кавенька, Н. А. Шэйка, Д. І. Панасюк ; рэд.: Л. І. Рачкоўская, Н. А. Гурская – Брэст, 2001. – 48 с. : фота.
1079. **О лёс мой, выказацца дай…** : вечарына паэзіі. – Ганцавічы : РДБ, 2008. – 3 с.
1080. **Прэзентацыя кнігі казак А. Каско «Чыстага ўсё нячыстае баіцца».** – Пружаны : РДБ, 2002. – 4 с.

1081. **Скразная лінія паэта** : сцэнарый свята кн. – Жабінка : ЦРБ, 2009. – 9 с.
1082. **Служыць Радзіме і красе** : вечарына, прысв. 55-годдзю А. Каско. – Жабінка : ЦРБ, 2006. – 6 с.
1083. **«Яго паэзія – ён сам…»** : сцэнарый прэм’еры кнігі А. Каско «45». – Ганцавічы : ЦРБ, 1998. – 4 с.

***

1084. **Каско Аляксандр Канстанцінавіч** // Роднай зямлі галасы : бібліягр. рэк. спіс / Брэсц. абл. бібліятэка імя А. М. Горкага, Аддз. беларус. літ. і краязнаўства, Брэсц. абл. аддз-не Саюза пісьменнікаў БССР [і інш.] ; склад. Т. С. Кавенька ; кансультант М. М. Пракаповіч ; рэд. А. С. Чавусава. – Брэст, 1985. – С. 12–13.
1085. **Каско Алесь** // Роднай зямлі галасы : бібліягр. навук.-дап. паказальнік / Брэсц. абл. бібліятэка імя А. М. Горкага, Аддз. краязнаўчай літ. і бібліягр., Брэсц. абл. аддз-не Саюза пісьменнікаў Беларусі [і інш.] ; склад.: А. Мельнічук, Т. Кавенька ; кансультант А. Каско ; рэд.: Н. Гурская, А. Ляўчук. – Брэст, 1993. – С. 22–24.

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

# АЛФАВІТНЫ ПАКАЗАЛЬНІК МАСТАЦКІХ ТВОРАЎ

# АЛФАВІТНЫ ПАКАЗАЛЬНІК НАЗВАЎ І ПЕРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАННЯЎ

# ПАЭТАЎ ЛЁС І ВОЛЯ-ВОЛЬНІЦА

Алесь Каско стаў паэтам ў студэнцкія гады. Прыйшоў ён у Брэсцкі педінстытут ў 1968 годзе з палескай глушы, калі карыстацца Коласавым выслоўем, меў атэстат сталасці Чудзінскай дзесяцігодкі, але быў неаб'езджаным тарпанам, не ўмеў укладвацца ў вузаўскі рэгламент, аказваўся ў ліку парушальнікаў інтэрнацкіх правіл пражывання. Партызанскаму сыну, ды маральнаму максімалісту, не хапала той свабоды, якою карыстаўся дома, дзе сяляне абыходзіліся з ідэалагічнымі табу і запаветамі вольна: дзяржаўныя святы рабілі проста повадам, каб павесяліцца, ды на п'яным настроі яшчэ і падлетка, які меціць высока, да чаркі прывучыць, каб стаў спачатку мужчынам, а потым хоць кім хоча:

Заманьвалі. Трапляла ў рукі шклянка
і мне – я чуў, затоены, як мыш:
змяняўся гімн вясковы «Ехаў Янка...»
на ўсенародны гімн «Шумел камыш...».

На малодшых курсах інстытута порсткага максімаліста раздражнялі выкладчыкі-педанты, якія, не могучы зацікавіць слухачоў зместам іх лекцый, прымушалі прысутнічаць у аўдыторыі пад наглядам дэканата. Паэту-пачаткоўцу лёс паслаў і нечаканую прасветліну: якраз у Брэсцкі інстытут быў пераведзены з БДУ Алесь Разанаў за патрабаванне выкладаць усе прадметы ва ўніверсітэце на беларускай мове. Шэраг прадметаў, якія тут чыталіся выпускнікам, ён ужо праслухаў у сталіцы, таму слухаць паўторна не хацеў, прапускаў, і яго не чапала дэканацкая служба. Разанаў ішоў у бібліятэку і штудзіраваў цікавыя яму навуковыя працы або начытваў мастацкія тэксты. Такое было панадна і нашым студэнтам. Яны прызналі Разанава ўзорам, а інстытуцкія паэты – лідэрам. Тады вучыліся Ніна Гарагляд, Мікола Пракаповіч, з якім А. Каско як паэт сапернічаў, набываў сваю манеру. Студэнт пачаў прапускаць нецікавыя лекцыі, мала дбаючы, што па іх яму давядзецца здаваць экзамены. Ён таксама, як і Разанаў, не марнаваў часу, штудзіраваў кнігі, якія былі яму даспадобы, здаваліся сучаснымі і патрэбнымі. Рэгулярна прыходзіў на пасяджэнні інстытуцкага літаратурнага гуртка і абласнога літаб'яднання. У інстытуцкі гуртом уваходзілі паэты – Уладзімір Гарбарук, Рыгор Сыраватка, Алесь Зайко і іншыя, сябрына выдавала машынапісны альманах. Адным словам, паляшук сам перавёў сябе на еўрапейскі ўніверсітэцкі рэжым, аказаўся белаю варонай, прытым дзёрзкай. З 1971 года пакінуў інстытут, стаў працаваць настаўнікам у вясковых школах, але не доўга: у тым жа годзе быў прызваны ў войска, праслужыў да 1973 года, потым настаўнічаў у роднай вёсцы Чудзін, уладкаваўся на завочнае аддзяленне педінстытута. Хутка, аднак, зразумеў патрэбнасць, сістэмных ведаў, якіх на завочным рэжыме амаль немажліва набыць. Атрымаўшы ў 1976 годзе дыплом, прыняў прапанову рэдактара Жабінкаўскай газеты і стаў працаваць карэспандэнтам. Там жа працаваў паэт і перакладчык Васіль Сахарчук, яны ўмацавалі раённае літаб'яднанне разам з Міколам Пракаповічам, рэгулярна наведвалі літаратурныя серады ў берасцейскім аб'яднанні пры газеце «Заря».

А. Каско схіляўся да новай плыні ў беларускай паэзіі, якая абжывала еўрапейскую асацыятыўнасць фантазіі, але не прызнаваў верлібра.

Дзяцінства паэта прыпала на часы хрушчоўскай адлігі, якая пахіснула іерархію сталінісцкіх міфаў і табу, створаных ідэалагічнаю службай для замыльвання вачэй дапытлівым вучоным, пісьменнікам і проста фанатыкам праўды, годнасці і сумлення. Усе яны падбіраліся да выкрыцця нялюдскасці дыктатуры, пабудаванай на касцях мільёнаў нявінных ахвяр. Хрушчоўская рэабілітацыя людзей, якіх замучылі ці парасстрэльвалі «тройкі» без віны, падрывала веру сумленных грамадзян у савецкі лад, партыю, дзяржаўнасць. Хрушчоў назваў прычынай крывавых «памылак» сілавых органаў тое, што савецкая ўлада была маладой і ёй не хапала кваліфікаваных спецыялістаў следчай і судовай службы. Але гэтая адгаворка не пераконвала.

Адносіны да ганебных палітычных рэпрэсій сталі мяжою падзелу паміж маладым пакаленнем і задубелай наменклатурай, якая корчыла з сябе непагрэшную, хоць была адвакатам д'ябла. У ходзе спрэчак канфлікт пашыраўся на ўсё маладое пакаленне і на ўсіх ветэранаў, склаўся новы міф на заказ наменклатуры: віну перакладалі на ўсіх. Ідэалагічная камандзірша Кацярына Фурцава адмяніла мінулы час: маўляў, хопіць будаўнікам камунізму сучаснага і будучага, навошта вярэдзіць памылкі мінулага. Хрушчовым і Фурцавай была пачата адкрытая кампанія зліцця нацый, як частка праграмы пабудовы камунізму за пятнаццаць гадоў. Рэспублікам зададзена было ўзаконіць дзяржаўнаю мовай рускую. Відаць, памяталі «хрушчовікі», што Вавілонскай вежы не пабудавалі дзёрзкія язычнікі таму, што Бог надзяліў іх рознымі мовамі.

Атрымала і кафедра беларускай літаратуры заданне падтрымаць прапанову аб увядзенні адной мовы для ўсяго СССР. Мы, выкдадчыкі, абурыліся, першай выказалася супраць дацэнт Смальянава, руская па бацьку. Яе падтрымалі ўсе выкладчыкі кафедры, мне засталося толькі падвесці вынікі абмеркавання і прапанаваць праект рэзалюцыі: чаму кафедра лічыць, што дзяржаўнаю павінна быць толькі беларуская мова. Пастанову кафедры перадаў па інстанцыях. Не ведаю, каторая з іх запраторыла нашу пастанову пад сукно. Здарылася мне быць ў Мінску і сустрэць на вуліцы Максіма Танка якраз у той дзень, калі Вярхоўны Савет прыняў ганебнае рашенне. Я ніколі не бачыў яго такім абураным і прыгнечаным.

Вось у такі час праходзіла сталенне паэта з Ганцаўшчыны, земляка Міхася Рудкоўскага, Алеся Каско. На вершы ён быў скупы, друкаваўся рэдка. Адкрываючы літаратурныя сустрэчы і вечары, я, бывала, больш падрабязна расказваў пра творчасць М. Рудкоўскага, Н. Мацяш, потым пераходзіў на М. Пракаповіча, хваліў яго мяккі лірызм, добразычлівасць да свету, любоў да прыроды, умелае выкарыстанне фальклору, а Каско быў тым, хто дапаўняў і часам кантрасціў ідылічныя матывы. Паэт выдаваў зборнікі з расцяжкай, цягнуўся да інтэлектуальнай паэзіі, а яна пішацца ўдумліва: кнігі «Скразная лінія» (1982), «Набліжэнне» (1989), «Час прысутнасці» (1994). Змястоўнасць і пераканальнасць надавалі вершам А. Каско рэальныя праблемы Палесся. У прадаўнія часы было яно краем доўгажыхароў, казачнікаў, знахароў, вартаўнікоў святых дубовых гаёў, было экзатычным краем непралазных балот, лагодных і мудрых патрыярхальных звычаяў, разважных людзей. Недзе ў XIX стагоддзі край стаў арэнай сутычак паміж паўстанцамі, што выступалі супраць самадзяржаўя, і царскімі рэгулярнымі войскамі, launchedператворанымі ў карнікаў. На пачатку XX стагоддзя, асабліва пры Польшчы, тут, на свой лад, дзейнічалі рэвалюцыя і нацыянальна-вызваленчыя рухі, перадусім беларускі. Гэта была зона дзейнасці КПЗБ. Узнікалі гурткі Беларускай сялянска-рабочай Грамады, Таварыства беларускай школы, пасольскага клуба «Змаганне». Легальныя арганізацыі стваралі гурткі мастацкай самадзейнасці і самаадукацыі, усведамлялі насельніцтва ў беларускім духу. Адсюль

паходзілі і тут дзейнічалі выдатныя прадстаўнікі беларускай культуры і палітычнага жыцця – Рыгор Шырма, Піліп Пестрак, Міхась Забэйда-Суміцкі, Мікола Засім, Юзік Урбановіч, Васіль Ласковіч, Сяргей Хмара і інш. Улады праследавалі не толькі камуністычныя ячэйкі, што працавалі ў рамках антыфашысцкага Народнага фронту сумесна з нацыянальна-вызваленчымі арганізацыямі (за што аб'яўлены Сталіным нячыстымі, а ўся партыя была ў 1938 годзе распушчана Камінтэрнам, яе кіраўнічы актыў выкліканы ў СССР і знішчаны). Грамада і ТБШ таксама былі забаронены і разагнаны польскімі органамі ўлады.

У верасні 1939 года тут былі створаны дружыны самаабароны, якія ўдзельнічалі ў баях з польскімі вайсковымі групоўкамі. Яны сталі каталізатарам, які натхняў насельніцтва галасаваць за ўз'яднанне Палесся як часткі Заходняй Беларусі з БССР.

У часе нямецкай акупацыі дзейнічалі актывісты антыфашысцкага падполля і беларускія партызанскія атрады (імя Шыша, Чарнака і інш.). Пасля Айчыннай вайны палешукам была пахопліва  навязана праграма глыбокай аднабаковай меліярацыі. Невядома чаго больш прынесла краю яна: карысці ці шкоды. Пасля такой асушальнай на Палессе навалілася і чарнобыльская бяда.

Само сабою, праводзілася і гамузавая ўрбанізацыя, што не толькі пералівала рабочую сілу з вёсак у гарады, але і пацiху, саматугам русіфікавала яе зверху.

Аднойчы, здаецца пры Чарненку, прыехаў у Брэст функцыянер з ЦК КПБ, выклікаў у партбюро педінстытута мяне як загадчыка кафедры беларускай літаратуры, раскрыў свой сацыялагічны пражэкт: падсунулі, відаць, мясцовыя паслужлівыя начальнікі ідэйку, што палескі дыялект бліжэй стаіць да рускай, чым да беларускай мовы, таму насельніцтва жадае, каб у школах адразу вучылі па-руску, абмінаючы беларускую мову. Маўляў, эканомія духоўных сіл і грашовых затрат. Інжынер па ціхай ліквідацыі нацый прапанаваў мне выказацца. Я быў абураны, таму, каб астыць, прапанаваў запрасіць Галіну Мікалаеўну Малажай, загадчыцу кафедры беларускай мовы. Галіна Мікалаеўна расказала пра вынікі лінгвістычных даследаванняў сваёй кафедры і падрыхтаванае кафедрай выданне акадэмічнага слоўніка дыялектаў Заходняга Палесся. Аказалася, што самы лёгкі, не адчувальны для дзіцяці пераход з дыялекту – менавіта на беларускую літаратурную мову. Я звярнуў увагу на тое, што маладыя паэты Палесся спыняюцца таксама на беларускай мове, і робяць гэта таленавітыя юнакі, для якіх мова найперш сродак мастацкай самарэалізацыі, творчасці. Беларуская вобразная паэтычная сістэма – сімвалы, паралелізмы, метафары, паэтычныя параўнанні – уся эстэтычная канвенцыя роднасная аднолькава жыхарам Палесся і жыхарам цэнтральнай Беларусі.

Госць паехаў без падтрымкі вучоных, але праблема засталася і рашалася паводле яго заказу: пачатковыя школы не толькі ў гарадах, але і ў вёсках пераводзіліся з беларускай на рускую мову. Родная мова, з часоў прыняцця хрушчоўскага хітрага закону, стала на Беларусі сродкам маніпуляцыі: бацькі вызвалялі дзяцей ад вывучэння беларускай мовы і гэтым прышпільвалі ім табу элітарнасці. Не пераходзілі, аднак, на рускую мову на Палессі ні старыя, ні маладыя беларускія пісьменнікі, яны ўзялі на сябе, поруч з абавязкам шліфаваць і ўзбагачаць мову мастацкай літаратуры, абавязак абараняць яе ад рэтраградаў, паслугачоў і кар'ерыстаў, што станавіліся аферыстамі і магільшчыкамі. Паэты сапраўдныя, таленавітыя заставаліся вернымі беларускай мове, а Беларусь лічылі сваёй вялікай Радзімай.

* * *

Алесь Каско спачатку ішоў як бы над названымі вышэй злыбедамі. «Скразная лінія» – гэта інтэлектуальны феномен, які раздзяляе супярэчлівасці быцця, а ў той жа час і злучае нешта стрыжнявое ў ім, што і дае права назваць быццём антыномныя з'явы, канструкцыйныя і дэструкцыйныя:

Цяплынь,
і шчодрасць навальнічная,
і сухавей, і градабой
зялёным полем намагнічаны,
з'яднаны лініяй скразной.

Свет складаны, супярэчлівы, але ў карэннях адзіны, ім нельга бесшабашна маніпуляваць у словах і гіпотэзах, яго трэба разумець і любіць, бо чалавек – часціна свету, а свет – крыніца шчасця і вітальнай радасці для чалавека, калі той умее ўступаць у гарманічнае суіснаванне з прыродай, экаструктурай і гуртавацца ў стваральныя сябрыны. Абстрактныя, сутнасныя паняцці сусвету і быцця прымаюць у свядомасці паэта канкрэтна-пачуццёвыя формы, становяцца вобразамі прыроды, настроямі лірычнага суб'екта, душэўнымі парывамі братання або адчужанасці. Паэт паказвае, што кожнаму жыхару трэба любіць свой край, каб стаць чалавекам, багатым духоўнымі каштоўнасцямі радзімы. Але ён жа настойвае на тым, што патрыёт павінен несці адказнасць за жыццё краю і нават планеты. Гэта думка праводзіцца ў кніжцы «Скразная лінія» на тэме «чалавек і прырода». Натуральная, лёсам дадзеная і рукатворная, створаная яго дзейнасцю, прырода не заўсёды ўпісваецца ў складаны свет вольнай стыхіі і ўзбагачае яго. Часта выцясняе ды са шкодай для чалавека.

Дуб у паэта вымушаны думаць, бо ён свабодна дзейнічаць і ўздзейнічаць на свет не можа, а вучоны можа ды не хоча, лянуецца ці начальства баіцца, вось і паўзе экзатычная экалогія Палесся пад адхон. Сацыяльную прычыну абвалаў, скаванасць грамадскай волі А. Каско паказвае на вобразе паэта, які выступае вольным казаком, казачным вершнікам, рамантыкам: вольны казак ставіць даброты духоўныя над матэрыяльнымі. Ды першым належыць воля, дружба і патрэба суладдзя ў свеце, разумнае сужыццё:

Гуляй, казак, на волі,
пакуль трымае лёд.
Ты выпрасіў у долі
Каня за трыццаць год.
Скупая ў нас эпоха,
малі ці не малі,
скупілі ў пана бога
ўсе ласкі за нулі.
Грашовы быт прыесца,
а дружба – назаўжды,
пакуль не прадаецца,
гані каня туды.

У вершы, прысвечаным В. Жуковічу, паэту рэдкай маральнай чысціні, А. Каско сцвярджае красу жыцця, бясцэннасць духоўных каштоўнасцей, усяго таго, дзеля чаго і варта жыць:

Адсваволіў ліставей,
улягліся ўсе трывогі.
Не, душы не ачарсцвець:
хараства на свеце многа.
Не, святло не дагарыць
і не раз душу абдыме,
покуль ёсць твае сябры,
покуль ёсць твая Радзіма.

Відаць, ад фальклорнай татэмізацыі раслін і жывёл бярэ пачатак і хораша праяўляецца ў ранняй паэзіі А. Каско старажытны рытуальны пантэізм:

Я – часцінка зямлі,
і таму мне балюча,
калі нішчацца дрэвы,
высыхаюць крыніцы.

А ў вершы «Антымалітва» лірычны суб'ект не можа ўявіць раю нябеснага як звышдабраты, бо ён пазбаўлены зямных атрыбутаў, што даюць людзям адчуванне хараства і шчасця:

О літасцівы Божа,
калі ты замагільны рай
адкрыў для душ адных святошаў, –
мяне ты раем не карай.

Лірычна прагучала ў першым зборніку і смелая шчырасць: закаханы лірычны герой робіцца ўступлівым, паслухмяным сваёй абранніцы, хоча, каб іх блізкасць была насамперш духоўнай гармоніяй ці прынамсі дапасаванасцю характараў. Ён яшчэ настолькі малады, што губляецца перад жанчынай:

Сустрэліся, каб толькі павітацца.
«Шкадуеш аб былым?»
«Як ты жывеш?»
І вось – ні размінуцца, ні застацца...
Ты падкажы, як скончыць гэты верш.

Наступны, выдадзены праз сем гадоў зборнік таксама названы абстрактна: «Набліжэнне». Спытаўшы сёння, да чаго?, трэба было б адказаць – да «перастройкі», але змест кнігі сведчыць, што набліжаецца паэт да творчай сталасці і да чалавека як разумнай і загадкавай істоты, якая праяўляе сябе насамперш праз сацыяльнае. Тут прыходзіць тэма памяці, гістарычнай спадчыны і этычнай арыентацыі сучасніка ў свеце грамадскім, больш складаным за свет

прыроды. Набліжэнне – пазнанне пакарэжанай злоснікамі беларускай гісторыі. Вякамі існавала краіна бездзяржаўнай, потым жа аказалася заграбленай хіжымі наёмнымі міфатворцамі.

«Набліжэнне» адрозніваецца ад папярэдняга зборніка інтэлектуальным ахопам жыцця, паэт называе сябе тым дзіваком, што хоча расчульваць сэрцы чытачоў, ачалавечваць задубелыя душы.

Час расставання са старым укладам пры адсутнасці новага стаў для маладых паэтаў часам трывогі, але і балючым стымулятарам духоўнага мужання. Са старым верхагляды расплачваліся ірoніяй, гратэскам, пераносячы сваю пагарду і нігілізм на ўсё старэйшае пакаленне. Ідэалагічны раскол станавіўся небяспечнаю явай. Маладыя максімалісты станавіліся самазванымі следчымі, пракурорамі, суддзямі тым, хто адваяваў родную зямлю ад фашысцкай навалы ды падняў з руінаў і папялішчаў. Пракуроры і суддзі самі нічога сур'ёзнага не зрабілі для Радзімы, гадаваліся на казённы кошт, таму выклікалі святы гнеў ветэранаў. Самыя шустрыя, убачыўшы, што ў сварках малы гешэфт, кінуліся ў рынкавыя гульні, граблі з дзяржаўнага дабра шляхам дзікага бізнесу шалёныя грошы, але прыпісвалі заслугі не развалу эканомікі, не балагану, а сваёй разваротлівасці, спрыту рук і кемнасці галоваў.

Што ж атрымалі ад дзікага рынку паэты? Рэальна – прыгаршчы смуроду і галадуху, грамадства ачарсцвела, меркантылізавалася, дзяржава паслабіла мецэнацтва над культурай, клопат аб духоўным развіцці існаваў толькі на языку. Кіраўніцтва пусціла навуку і культуру на хвалі хворага анархічнага рынку ды яшчэ абклала падаткамі. Выскачкі ў вярхах вeрылі ў мяшчанскі зайздрослівы міф, быццам пісьменнікі пры савецкай уладзе былі закормленымі панамі багацеямі.

Алесь Каско аказаўся рэалістам і праўдалюбам, ён дзяліў людзей не паводле ўзросту, а паводле адносінаў да беларускай справы, да Радзімы, таму бачыў, што нялёгка было выстаяць нават у застойны час тым, хто прысвяціў сябе працы на ніве беларускай асветы, культуры, мастацкай творчасці. У пачатку другой кніжкі ён змясціў верш «Пераемнасць», прысвечаны папярэднікам, настаўнікам, якія далі прыклад сумленнай і ахвярнай працы на беларускай ніве, і тым маладым, што гатовы ўзяць у рукі гэты сцяг і несці яго далей:

Яшчэ ўзмужнелыя не ўсе,
не ўсе напоўнены адвагай,
затое – вераю
і прагай
служыць Радзіме і Красе.

Паэт не кідаецца ў палітыканскую гульню, у дыскрэдытацыю ветэранаў і ануляванне подзвігу беларускага народа ў Айчынную вайну з-за таго, што ваявалі беларусы пад савецкімі сцягамі. А тое, што адваявалі народу дастойнае месца ў цывілізаваным свеце, членства ў ААН – не лічылася, аферысты хапаліся завалачы ў беларускі нацыянальны пантэон аферных продкаў, разбойнага Булак-Балаховіча, які хадзіў у польскім генеральскім мундзіры і ад якога сепаравалася Першая ўсебеларуская палітычная канферэнцыя, ды Вацлава Іваноўскага – рэзідэнта польскай контрразведкі на акупаванай фашыстамі Беларусі, што гуляў з Вільгельмам Кубэ ў прэферанс, элегантна ішоў на паддаўкі і цудоўна віляў хвосцікам. Да гэтага часу валакуць у пантэон паэтку, якая ў акупацыю заблыталася між дзвюх соснаў – партызанскай і акупанцкай, паддалася аса-

бістай помслівасці за несправядлівыя рэпрэсіі савецкай уладай бацькоў і нямецкую акупацыю назвала вызваленнем, а савецкае вызваленне – акупацыяй. Вельмі арыгінальна!

А. Каско не трапіў на прынаду шалапуцкіх навацый. Партызанскі сын памятаў, што яго бацька добраахвотна пайшоў у атрад тады, калі акупанты без дай прычыны расстралялі дзеда, пайшоў ачышчаць сумленне сваё перад нябожчыкам. Пасля вызвалення Ганцаўшчыны ўступіў у Савецкую Армію і ваяваў да перамогі, вярнуўся дамоў інвалідам і не нажыў, на злосць міфатворцам, ніякага культу вайны, больш за ўсё на свеце любіў мір, сямейнае цяпло, пчалярскі промысел, а з «ваенных» заняткаў – паляванне на зайцоў.

Філасофія жыцця ў сына-паэта такая ж ясная і сумленная, як і ў бацькі. Творчае шчырае слова ён лічыць першаасновай душы:

Там слова – як жарынка праўды:
дыхае жыццё – яно ярчэй
зацепліцца... Ніякай рады –
душу нясцерпна апячэ.
Але, магчыма, і да шклянкі
пацягнешся, каб астудзіць
віном ці кропляй валяр’янкі...
Дарма: сумленню ў слове – быць!

Творчасць паэт лічыць ачышчэннем сумлення, споведдзю, адкрываннем сабе і чытачу, што сэнс жыцця – на вастрыі жыцця. Просіць лёс не забіраць яго з жывых заўчасна:

Не стане моцы – і няхай! –
у памяці, руцэ, у зрэнцы...
Усё вазьмі і толькі сэрца
пакінь
і выказацца дай.

Размову пра прызванне і прызначэнне паэта А. Каско працягвае ў вершы, прысвечаным М. Пракаповічу. Паэт адмяжоўваецца ад веры ў наканаванасць лёсу, які пазбаўляе нас волі:

Зямля – з-пад ног,
і рухне бераг
на глыбы пеністай вады...
Але нікому не паверу
ў непрадухіленасць бяды.
Свой шанц
я не аддам без бою,
як чараціначку нашу,
і стану даражыць сабою
для тых, кім болей даражу.

Канчаецца гэты рацыяналістычны кодэкс паводзін у сацыяльнай прасторы, якою апаноўвалі на руінах вульгарна-матэрыялістычнай ідэалогіі экстрасенсы, знахары, прапаведнікі канца свету.

Верш завершаны сцверджаннем веры ў дружбу і роднасць між людзьмі. Важным апорным пунктам у набліжэнні да этапу актыўных вызваленчых дзеянняў у рамках абнаўлення былі крытычныя адносіны да такіх новых міфаў, як міф пра рахманую бязвольнасць беларусаў і комплекс непаўнацэннасці. Гэта прывяло паэта ў гушчу вызваленчага працэсу, навучыла быць карысным барацьбітом і арганізатарам адраджэнскай справы.

* * *

Даволі дзіўна, але факт: паэты з Палесся пагуставалі ў інтэлектуальна-філасофскай плыні беларускага верша: тут Ніна Мацяш, Зіна Дудзюк, Васіль Сахарчук, Алесь Разанаў. Апошні стаў лідэрам гэтай плыні, якую адраджаў яшчэ ў вайну Максім Танк (Кучар абзываў яго пасля ўз'яднання імажыністам). Пасля вайны Танк стаў правадніком заходнеславянскай паэзіі, у тым ліку яе мадэрнісцкіх набыткаў, якія ўспрымаў творча і разумна сінтэзаваў з самабытнасцю беларускага фальклору. Філасафічнымі паэтамі адраджаліся, паднімаючыся над сацрэалістычнымі канонамі, А. Куляшоў, П. Панчанка, С. Дзяргай, а з дыпламаванага малодшага пакалення сюды цягнуліся П. Макаль, А. Вярцінскі, Я. Сіпакоў, У. Някляеў. Сёння інтэлектуальна-філасофскую плынь спрабуе напаўняць зноў прыстойная плеяда з Палесся – Л. Дранько-Майсюк, І. Сідарук і навабранец Максім Шчур, адкрыты М. Пракаповічам.

У Беларусі цяга да названай плыні дыктавалася жаданнем не толькі пашырыць рамкі жанравай паэзіі, узбагаціць палітру ды авалодаць выяўленчымі вобразамі сучасных еўрапейскіх паэтаў, але і наблізіць беларускую паэзію, што карыстаецца пераважна фальклорам і класічным беларускім вершам, да паэзіі еўрапейскай, а калі дазволіць талент, дык і ўвайсці ў арэал сусветнай паэзіі.

Як вядома, філасофскую аснову падвялі пад сучасны еўрапейскі мадэрнізм Ніцшэ, Шапенгаўэр, К'еркегор, потым прыйшлі экзістэнцыялісты Сартр, Камю. Мадэрністы таксама даследавалі асобу сучасніка, ідэалізавалі і фетышызавалі жыццё індывіда, а смерць ураўноўвалі з канцом свету. Беларускія паэты на такіх скрайніх пасылках не настойваюць, іх больш цікавіць пранікненне мадэрнай паэзіі ў глыбіні псіхікі, за межы двайной логікі, пошук прыкмет і абрысаў неспазнанага. Яны адчуваюць, што мастак можа выйсці за межы рэальнасці, пранікнуць у падсвядомае, адкуль могуць ісці алагічныя імпульсы, рэальнасць можа змешвацца з прывідлівасцю і неспазнанасцю. А. Разанаў назваў у выступленні ў ПЭНцэнтры гэтую сферу трэцім светам. Ян Чыквін называе трайной логікай. Навуковае пазнанне дзейнічае насамперш у з'явах рэальнасці, а пісьменнік можа пераключацца ў сферу прадчування, у фантастыку і цяжкое для разумення антыбыццё, што патыхае таямнічым чарадзействам. Мастак мае прызванне выказваць сваё суб'ектыўнае ўспрыманне жыццёвых з'яў, даваць ацэнку нестандартным людзям і адносінам, у якіх прагматык бачыць толькі алагічнае, а паэт гляне свабодна цераз прызму трэцяй (ацэначнай) логікі і адкрые нешта новае, можа, таямнічае, але дзейснае.

Нярэдка мадэрны верш канчаецца зацемненай фантастыкай, якую паэт упырсквае ў шэрую рэальнасць: атрымліваецца нечакана парадаксальны кантраст, што пабуджае да роздуму. У новым зборніку А. Каско «Час прысутнасці» з'явіўся, можна сказаць, шагалаўскі фантастычны пейзаж. Так выглядае аблачынка:

Страшна сон яе парушыць –
ветру ўскінуўся павеў,
і над стромай капялюшык
сінім воблачкам плыве.
Пацяжэла аблачынка
і ўжо скача на вадзе...
Страшна, што й сама дзяўчынка
з краю берага ўпадзе.
Гэтак смела мы планету
за стагоддзі абжылі:
крок, імгненне – і край свету,
небяспечны край зямлі.

Паэт спусціў свой вобраз на зямлю, а фактычна падняў у бязмежжа космасу. Экзістэнцыяльная філасофія і ўзрослая на ёй мадэрная паэзія смела і арыгінальна раскрылі паралель: чалавек і космас, адкрываючы новую сферу трывогі і духоўнага багацця. Звычайна космас у іх – крыніца трагізму і жахаў, бо сусвет яны лічаць непазнавальным і асуджаным наканаванай катастрофай канца. У новым зборніку «Час прысутнасці» А. Каско ў гэтай тэме аптымістычны, ён абмяжоўвае прадказанні будучыні свету мноствам фатальных памылак, лакальных экалагічных катастрофаў, але не фатальнага канца:

Гэта пэўна, гэтаісна:
свет не згіне, век міне;
гэтым далям, гэтым высям
існаваць пасля мяне.
Гэта дробязь, гэта проста –
гэта выпадзе адна
кропля з мора, кропля з росаў,
кропля горкага віна.
Гэта дзіўна, гэта сумна:
ноч за днём, за ноччу дзень
паплывуць далей бясшумна
без мяне – ні ў чым, нідзе.

Асноўная экзістэнцыяльная праблема быцця і небыцця пераносіцца паэтам з касмічнай далечыні на родную зямлю, на Палессе і падключаецца да тых гіганцкіх экалагічных і сацыяльных эксперыментаў, якія праводзіліся тут за кошт саюзнага бюджэту, таму сквапна, спехам, і, нягледзячы на запэўніванні вучоных і адказных кіраўнікоў, давалі збоі, прынеслі многа шкоды, паставілі здаровую прыроду на край прадоння, у стан катастрофы:

З багна – то луг, то зноў багно,
і ў тым глумленні над прыродай
відзён прагрэс, ды не відно
ані прасветлінкі на одум.

Каму, скажыце, западзе
здагадка, што мы самі ўрэшце
сабе спрычынім судны дзень
задоўга да яго прышэсця?
Спасцігне незайздросны лёс:
ёсць бог зямны, ён самы дужы –
мальбы не пусціць да нябёс,
нябытам пакарае душы.

Сёння перагляд чалавецтвам адносін да прыроды, бясспрэчна, праблема лёсавая. Калісьці, на світанку цывілізацыі, чалавек лічыў сябе часцінай прыроды, жыў з прыродай у гармоніі, не глуміўся і не спажываў лішняга, але ў меру развіцця тэхнічнай цывілізацыі, калі рухавіком грамадскага прагрэсу лічыліся сіла і барацьба, уладны тып адносін перанёсся з грамадства на прыроду, чалавек пачаў лічыць сябе панам прыроды. На жаль, паны схільны забываць аб адказнасці за вынікі панавання, спажыванне прыродных рэсурсаў прыняло варварскі характар: знікалі з зямлі многія віды раслін і жывёл, парушалася экалагічная раўнавага. Пры таталітарным сацыялізме ў СССР панаванне над прыродай прыняло безадказна агрэсіўны характар. Прыроду «пакаралі» і часта атрымлівалі замест карысці страты, незваротную шкоду. Але верхагляды і аферысты падсоўвалі цераз інстанцыі новыя пражэкты, каб адцягнуць увагу ад правалаў і страт.

Вельмі трапна, гратэскна, падаў А. Каско адыход нават простых меліяратараў, тутэйшых дзяцюкоў, ад традыцыйнага сужывання з прыродай да тэхнізаванага бяздумнага ўмешвання ў яе законы. Меліяратары абсмейваюць імя бабы Яўхіміі, што здавён замольвала дубровы ад засыхання, рэчкі ад бязводдзя. Жартаўнікі ператварылі імя бабулі ў мянушку «баба Хімія» і рагаталі са свайго досціпу:

Ды вось жа потым «нахімічылі»:
раку і дрэвы, і аер
звялі... Імя старое Хімчына
перамянілі на мадэрн.
Даўно было. Я ж бачу: чэрпае
яна ваду – і цвіль, і муць,
а дзецюкі, угору чэравы
у едкім воблаку плывуць.

Пейзаж зроблены зноў як бы паводле ўзору Шагала, толькі жорсткі, гратэскавы, жахлівы. Належыць ён пяру беларускага паэта, якога падганяць пад мадэрны візіянізм было б вялікаю нацяжкай. Праўда, жаданне быць сучасным, валодаць усім выяўленчым арсеналам сучаснай паэтыкі, а не толькі верлібрам, які сышоў з моды, у яго ёсць. Для гэтага патрэбна ведаць замежныя мовы. Беларускія перакладчыкі – В. Сёмуха, Л. Баршчэўскі, Н. Мацяш, А. Разанаў, І. Чарота, А. Мінкін і іншыя – многа зрабілі апошнім часам, каб данесці да беларускага чытача здабыткі еўрапейскіх майстроў паэтычнага слова, у тым ліку і мадэрнісцкага. Але гэтага мала, пранікаюць у сутнасць тыя, хто сам валодае мовамі. Калі А. Каско бярэ нешта ў мадэрністаў, дык хіба культ творчай свабоды. А паэтыку яго нашы суседзі, палякі, назвалі б традыцыйнаю

або скамандрыцкаю. (У іх альтэрнатыўная авангарду творчая група называлася «Скамандр». У творчым маніфесце яна запісала: «Верым у святасць добрай рыфмы і ў боскае паходжанне рытму». А мадэрністы называлі рыфмапаклоннікаў катрыншчыкамі.)

* * *

Журналісцкія крытычныя публікацыі пра асушку Палесся з'явіліся ў Беларусі адразу, як толькі пачаліся тарфяныя і пясчаныя буры. Вучоныя абвінавачваліся ў тым, што дрэнна прадбачылі і праектавалі, замест меліярацыі атрымалася нешта адваротнае. Лёгка адбіла крытыку начальства, якое клапацілася пра «асваенне» адпушчаных вялікіх грошай. На самай справе тады ніхто з удзельнікаў гэтай кадрылі – ні вучоныя, ні кіраўнікі, ні калгаснікі, гаспадары зямлі, ні механізатары, не мелі ўплыву на ход падзей: стратэгі не спыталі, ці хочуць людзі выпрамлення рэк, асушвання ўсіх балотаў і забалаткаў – усё вырашалі самі.

Палеская тэма ў А. Каско самастойна выпакутаваная, ён арыентуецца не на новыя факты, а хутчэй на асэнсаванне лёсавай фатальнай падзеі з гуманітарных пазіцый. Атрымліваюцца жыццёвыя і шчымлівыя, шырокаахопныя маналогі. Калі б рэдакцыя «Звязды» даверыла мне выбраць для анталогіі аднаго верша твор А. Каско, я прапанаваў бы верш «Палессем». Упэўнены, што ён стане хрэстаматыйным. Экалагічная драма Палесся ўвязана тут у духоўную трагедыю Беларусі, якую застойнікі, дурнапёкі супернацы пазбавілі жыўцом нацыянальнай годнасці, роднай культуры, завязалі рот, заглушылі мову. І ўсё гэта было зроблена цяп-ляп, пастаханаўску, недзе пасля адыходу з жыцця Караткевіча, які тут, на Палессі, натхняўся, пішучы «Зямлю пад белымі крыламі». Цяпер Алесю Каско скарэжаная родная зямля здаецца «зямлёй пад чорным крыжам».

Паэт хоць і нарадзіўся на Палессі, але думаў і пакутаваў усёй Беларуссю, якая адыходзіла і нараджалася. Ён асабіста ўдзельнічаў у дэманстрацыі на пляцы Незалежнасці, калі парламент вагаўся аб'яўляць незалежнасць. Ён у пісьмах сяброў з розных гарадоў Беларусі лавіў сімптомы адраджальнага працэсу і сёння пакутуе ад вяласці перыферыі, нясмеласці і патульнасці маладога пакалення, асабліва паэтаў, мастакоў, нават эстрадных пеўнікаў.

Змястоўнасцю вызначаюцца яго балады і элегіі, напоўненыя патрыятычнымі роздумамі: «Філалагічная балада», «Беларуская элегія», «Зноў я дома, дома, дома...». Тут праблема быцця і нябыту толькі знешне пераклікаецца з поглядамі экзістэнцыялістаў, а, па-сутнасці, застаецца нашай, беларускай, пранізанай мудрай паляшуцкай патрыярхальнасцю, святасцю роднай хаты і сям'і:

Адно б доля захацела!
Хату загадзя прашу,
каб адвеялі ад цела
толькі тут маю душу.
Толькі тут ёй будзе добра,
дзе паўзмрок і цішыня,
дзе матуля, як мадонна,
будзе вечна ля акна.

Усхвалявана, шчыра і востра паказаў А. Каско вырастанне і творчае станаўленне вясковага хлапчаняці, надзеленага божай іскрай. Сённяшнія Сымоны-музыкі вырастаюць на пераломных этапах жыцця Палесся. У інтэлігенцкіх асяродках спакваля вырастала апазіцыя наменклатур-

най зацугленасці, уніфікацыі думак і абясцэньвання асобы, таленту. Інтэлігенцыя балюча адчувала рэгламентацыю думкі ідэалагічнымі ўстановамі, падстрыганне ўсіх пад адзін казённы грэбень:

Мне ў чаканні маўклівым, няплённым
апастыльвала так чарната,
што ўяўляў тое поле зялёным:
дзіды-ўсходы без сонца-шчыта.

Паэт бачыць сябе падарожнікам, які крочыць праз «азызлую пространь і пад гнётам дажджыстай бруі»:

Нібы вязень, імкнуўся да волі –
волі слова, яго хараства.
І зазнаўшы пакутаў, засвоіў
я прыроду свайго рамяства.

Ён цвяроза бачыць, што адраджэнскі рух сёння трымаецца пераважна на маладых ідэалістах, якія з вёсак трапілі ў гарады як навучэнцы і не стварылі моцных асяродкаў:

Хлопцы, хлопцы, белыя вароны!
Горад азірнецца – уздыхне,
ці пагардай, быццам з-пад кароны,
з-пад брыля праніжа, не зміргне.

Паэт верыць у шчырасць і цвёрдасць веры («Не баяцца брудных нагавораў, мужныя ачысцяцца ў вяках»).

З падбору мастацкіх прыёмаў, выпрацаваных і асвоеных мадэрнізмам, А. Каско прымае сёетое, і то выпадкова. Для беларускай паэзіі гэта не новыя, але свежыя: іронія, парадокс, гульня слоў, далёкая асацыяцыя, абсурдная сітуацыя, сатыра, што пераходзіць у сарказм. Важна не назвы вобразаў, а самастойнасць іх выкарыстання. Тымі сродкамі выразнасці, якія яму асабліва падабаюцца, паэт валодае бліскуча.

У чым парадокс нашага беларускага адраджэння 20-х гадоў? «Вельмі хісткі парог Адраджэння дзяліў з Адрачэннем».

* * *

Трэці раздзел «Часу прысутнасці», прысвечаны каханню, называецца «Цябе я клікаў», але сутнасць любоўных адносін лірычнага суб’екта, ужо сталага мужчыны, ці не лішне назолiста вызначае запазычаны ў Ластоўскага тэрмін «жарсць». У вершы з такім загалоўкам ён вяртае думку да язычніцкіх часоў, калі панаваў «дух паганскі, першаісны», а каханне зводзілася да сексу. Было такое, але ж потым прыйшоў залётны Эрас і ўрэшце каханне дасягнула ў сваіх самых тонкіх праявах духоўнога пачатку. Грэкі лічылі сынам Зеўса чалавека, які ўмеў адольваць свае інстынкты, паступаць разумна ў справах страсцей, кахання, жаніцьбы, сям’і. Лірычны суб’ект у вершах А. Каско аб’яўляе жарсць цягай неадольнай: «Яна смыліць найзгубней, найзырчэй – няўтольная, няўтоеная смага!» Тут ці не сын Вялеса. Але, удумаўшыся, мы пазнаем апазіцыю да савецкага любоўнага канона, які даваў прадпісанні страсцям: калі ж камуніст не спраўляўся,

яму «дапамагала» партбюро, беспартыйнаму – прафком і дырэкцыя, што здымалі з анкеты запіс «маральна ўстойлівы».

Верш «Згадка пра філфак» напісаны верлібрам, а лад яго апавядальны, сціслы расказ пра здарэнне, у якім жыццёвае перамяшалася з фантазлівым і рытуальным. Лірычны суб'ект зачытаўся творамі Альбера Камю і спазніўся, хіба не першы раз, на лекцыю пра тэорыю сацрэалізму. Пазваны ў дэканат прыхільнік экзістэнцыялізму стаў скрушлівым хрысціянінам і ў парыве раскаяння абяцаў зачытвацца Марксам, Горкім Максімам, Бедным Дзям'янам. Як бачна, сітуацыя падаецца аўтарам гратэскава, карыкатурна, перабольшана, але жыццёва. За ілжэабяцанні герой не перажывае. Ён настолькі падатлівы і прасцецкі, што папрасіў у групкамсорга канспект прапушчанай лекцыі. І быў агарошаны другі раз за дзень: тая прынесла яму ў інтэрнацкі пакой колца каўбасы (паэт называе яго «каўбасным пярсцёнкам», які заручае нас «Тайнай вячэрай» і «Песняю Песняў...»). Ну, тут ужо «дзе Рым, дзе Крым». «Тайная вячэра» – гэта братанне і трагічнае развітанне Хрыста са сваімі вучнямі перад пакутлівай смерцю на крыжы, а «Песня Песняў» – твор старазапаветны, язычніцкі, пра любоў цара Саламона з прыгожай Суламіф'ю, дзе адкрыта апяваюцца цялесныя асалоды. Чым была вячэра з гаспадарлівай камсамольскай апякуншай – невядома. Здагадаўся і зразумеў толькі Алесь Разанаў, якому назаўтра аўтар прачытаў напісаныя ноччу вершы і расказаў пра вячэру. Зразумеў ён пачаткоўца-паэта, і Яе (нібы музу), і Альбера Камю, нібы прапаведніка развязнасці, і таполі, што ківалі галовамі на ветры. Сумняваюся я, ці быў калі-небудзь такім талерантным да сексу Разанаў, ён пашкадаваў калегу, што трапіў у жыццёвыя калізіі, з якімі той не справіўся, нават прыняў паблажліва і выкручванні ў дэканаце. Што ж атрымліваецца? Злыя жарты экзістэнцыі над маладзёнамі. А мо быў неўсвядомлены пратэст маладых супраць празмернай рэгламентацыі чужога асабістага жыцця «адказнымі» асобамі і вучэбнымі ўстановамі?

Як мы памятаем, інтымныя вершы абодвух папярэдніх зборнікаў А. Каско былі больш адухоўленымі, часта сарамлівымі, а гэты, напісаны для трэцяй кнігі – жорсткі, бо прыпадае на час развалу ўстояў, на перайманне нашымі «прагрэсістамі» нораваў сексуальнай рэвалюцыі, якую, можа, і назваў Рэйган так, каб прынізіць савецкую, сацыяльную.

Мо я і лішне сурова пакрытыкаваў А. Каско за перабор сексуальнасці ў некаторых яго інтымных вершах. Але крытыка мая не мае благога помыслу, арыентаваўся я ў падыходзе да праблемы на інтымныя вершы нашых паэтэс Н. Мацяш і З. Дудзюк, якія інтуіцыяй знаходзяць тую залатую жылу, што спалучае эрас з духоўнай любасцю, пяшчотай, не дае яму перарастаць у голы секс, ці, як было прынята гаварыць у СССР 20-х гадоў, «любовь без черемухи». Духоўнаю дамінантай любоўных вершаў берасцеек з'яўляецца памяць сэрца, якую можна лічыць эквівалентам скрушлівага шчасця. Ва ўмовах адраджэнскага руху каханне можа адухоўлівацца ідэаламі свабоды, справядлівасці, братэрства. Гэта здаровая духоўнасць, што відаць з верша З. Дудзюк «Роднасць»:

Ніхто не навучаў мяне заўзята,
Ніхто мне запаветаў не даваў.
Ісці мне цяжка, хоць і ўслед за братам,
Бо забыцця высокая трава.

Лірычны герой у А. Каско даўно свабодны ад маральнай аброці, кідаецца ў супрацьлеглую крайнасць, згаджаецца быць нявольнікам жарсці:

З ёй думкі пра кароткасць веку – прэч,
імгнення досыць, самай лёгкай іскры, –
і ўспыхвае, пярэч ці не пярэч,
яна, як дух паганскі, першаісны.

Падлеглага страсцям чалавека паэт лічыць шчасліўцам, але гэта ацэнка спрэчная: калі б яно было так, дык чалавецтва і заставалася б у палоне палігаміі. Беларускае Купалле, хоць і захоўвае шмат эратызму ў абрадах і звычаях, але славіць каханне дваіх (Купайла і Купалінка), сцвярджае парную сям'ю і вернасць мужа і жонкі да смерці. А што забяспечвае трываласць каханню, робіць вернасць нейкай натуральнай? Духоўнасць. Стан, калі закаханыя ці жанатыя жывуць душа ў душу. Лірычны суб'ект часамі не рвецца рабіць каханаю сваёю сяброўкаю, саўдзельніцай яго змястоўнага і складанага духоўнага жыцця, яна для яго саўдзельніца жарсці. А гэтага мала, і неяк шкада разумных людзей, якія ўступаюць у любоўныя зносіны спажыўцамі адно аднаго. Праўда, юрлівы ўхіл драпіруецца эстэтычным флерам: каханка – увасабленне красы, а сустрэчы з ёю адбываюцца часта на ўлонні цудоўнай прыроды. Лірычны суб'ект памятае ўсё гэта. Малавата. Папа рымскі ў нядаўнім выступленні па праблеме пагрозы маральнай распушчанасці сучаснікаў асудзіў голы секс у каханні як грэх, як выкарыстанне іншага чалавека для сваёй уцехі.

Шукае апраўдання А. Каско лірычнаму суб'екту: любоўная цяга выклікае ў яго ўздым творчых сіл, ён дзякуе каханай «за крылы». Маюцца на ўвазе крылы фантазіі, творчы палёт думкі, які прыходзіць да яго праз шчасце кахання або праз пакуты жыцця ў недасканалым свеце.

У інтымных вершах, дзе лірычным суб'ектам выступае сам паэт, шмат пяшчоты і роздумаў аб шчасці, каханне выступае ў многіх вершах як сіла, здольная ўзнесці душу і адкрыць вялікія скарбы жыцця. Такія вершы «Абвясціла з'яўленне цуду», «Мы сто гадоў з табою назаўсёды» і іншыя. Для ілюстрацыі прывяду пачатак першага:

Шчаслівыя мы ў гэты міг кахання:
Ты ўпершыню, а я ў апошні раз.
Няхай бяздонне падзяляе нас –
Шчаслівыя мы ў гэты міг кахання.

* * *

Калі конь перабудовы занаравіўся і павыкідаў з сядла рэстаўратчыкаў Савецкага Саюза, збанкрутаваных кансерватараў, загрымаваных пад дэмакратаў і народнікаў, разрахунак з мінулым прыняў сілавы характар: старыя і маладыя выйшлі на плошчы, вуліцы, а кабінетныя пацукі выставілі міліцыю. У беларускім пісьменніцкім саюзе, які быў сябрынай дружнай, бо Максім Танк меў належную кіраўніку прадбачлівасць і вытрымку, адводзіў ад неабачлівых, асуджаных на паражэнне сутычак з усеўладнымі партыйнымі апекунамі, важак скіроўваў арганізацыю на абарону прафесійных інтарэсаў, належнай талентам павагі і годнасці з боку дзяржавы і афіцыйнай грамадскасці. Раптам гэты курс быў аб'яўлены малайцамі згодніцкім. Гэта была сутычка інтэлігентнасці з шарлатанствам. Задзірыстыя крыкуны вадзіліся захапіць кіраванне саюзам, узяліся ганіць і абражаць заслужаных і народных. Але таннай вулічнай папулярнасці не хапіла, каб атрымаць давер творчай сябрыны. Спроба маладых пасадзіць на

VII з’ездзе СП Беларусі ў кабінет старшыні свайго барда правалілася, нягледзячы на натхнёную агітацыю Дануты Бічэль і дэманстрацыю мускулаў адным з маладых, але барадатых адрачэнцаў. Бард, што меціў на ролю правадыра, сеў у лужыну. Хамаватая калацея не ўгаманілася, але ўсё больш дыскрэдытавала моладзь у цэлым, рэчышча падзелу пакаленняў паглыбілася, і на разладзе цярпелі самыя таленавітыя мастакі з абодвух берагоў. Грамадскасць не заўважыла драмы тых, надзеленых іскраю божай ціхіх, сціплых і мудрых ад прыроды дзяўчат і юнакоў, якія ахвярна аддавалі свае творы часопісам ці выдавецтвам на безганарарнае выданне ды не праходзілі з-за настырных новых кан’юнктуршчыкаў. Сварка з мінулым, якое ўжо нават не агрызалася, неўзабаве набіла аскому чытачам. Дывідэнды эстраднікаў упалі, некаторыя з іх падаліся на даляровыя пашы або пашыліся ў камерцыйныя вясёлыя кампаніі. На гэтым пераломе А. Каско быў абраны берасцейскімі пісьменнікамі сакратаром абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Новая пасада зрабіла яго ўдзельнікам рэспубліканскіх сходаў і наблізіла да нялёгкай долі творчай інтэлігенцыі на зломе эпох. Заключны раздзел яго зборніка, як мне бачыцца, прысвечаны цяжару жыцця, якое трапіла ў гора бязладдзя.

Многа горкага і аблуднага адчуваў на сабе паэт. Лідэру пісьменнікаў не знайшлося ў Брэсце жылля, да сённяшняга дня жыве ў Жабінцы і ездзіць на работу і назад цягніком. І гэта ў той час, калі сотні, мо тысячы, прайдошлівых прыхватызатараў, нахабных спекулянтаў і карумпіраваных імі чыноўнікаў жывуць у шыкоўных гарадскіх кватэрах, пабудавалі за неадплатныя дзяржаўныя крэдыты вілы ў зялёнай зоне. Гонар не дазваляе хадзіць і напамінаць начальству пра асабістае, хоць ведае, што ўклад, які ён уносіць у культўрнае жыццё горада і вобласці, дастойны. Выбіў А. Каско толькі прыстойнае памяшканне для аддзялення. Кожны месяц выбівае цераз «бацькоў» вобласці ільготы ў аплаце, бо дырэктар тае ўстановы хацеў бы, каб Саюз пісьменнікаў плаціў такую ж суму за арэнду, якую плацяць камерцыйныя структуры.

Моцна і ўсхвалявана паказаў у вершах А. Каско драму, нават трагедыю «ціхіх», сапраўдных маладых талентаў, якім даводзіцца маладзець у новым ладзе, што не спраўляецца з эканамічным хаосам і пхае творчую інтэлігенцыю за рысу беднасці. Дачакаліся-дажыліся, калі маладых і немаладых, але творча актыўных вучоных сталі браць на падкормліванне замежныя «фонды», а сярод школьнай моладзі сталіцы, як калісь на рынку рабоў, праводзяць адбор самых здольных, пасылаюць на год за акіян вучыцца на агентаў даверу.

Вершы пра долю-нядолю маладых талентаў склалі б лірычную паэму, каб аб’яднаць іх: «Спадчыннік» (18), «Хлопцы, хлопцы... Белыя вароны!» (11), «Крылаты» (29), «Мутант» (34), «Перад свечкаю» (37), «Цяпер працягнецца маўчанне» (38), «Мудрыя маладыя творцы» (42), «Ці гэта сцягі адшумелі...» (43), «Выток» (67), «Ёсць пачуццё – дачасна жыў» (112), «На ўзбочыне маёй дарогі» (114). Зрэшты, размешчаныя па ўсёй кнізе, яны ўмацоўваюць яе цэласнасць скразной тэмай, якая падаецца то чула, але без сентыментальнасці, то драматычна, але без адчаю, то трагічна, але з надзеяй на перамогу жыцця над нябытам.

Ёсць і іншыя атожылкі гэтай балючай дрыготкай тэмы – напрыклад, вечная нязгода паэта з супярэчлівай рэчаіснасцю, якая ствараецца без яго ды для яго. Тут прыгадваецца мне квінтэсенцыя з выступлення А. Разанава на пасяджэнні Беларускага ПЭНцэнтра: ён заявіў, «што беларускі паэт не мог знайсці агульнай мовы ні з камуністычнай рэчаіснасцю, якая адышла, ні з дэмакратычнай, якая не прыйшла. У прынцыпе, гэтыя рэчаіснасці ствараліся не па мерках патрэб чалавека, таму паэты, паэзія стваралі сваю трэцюю рэчаіснасць – гуманістычную,

прадстаўніком якой з’яўляецца паэт. Яго ўлада – ад яе». Разанаў лічыць, што «трэба сцвярджаць паэта не паводле існуючай грамадскай рэчаіснасці, а наадварот – шукаць і сцвярджаць будучую рэчаіснасць паводле меры паэта, гуманіста» («ЛіМ», 17 чэрвеня 1994 года).

Канешне, А. Каско так далёка не сягае, але і не дрэйфіць перад абыякавым дэфектыўным грамадствам, што аказваецца больш абыякавым да паэтаў, чым папярэдняе, якое хацела, каб яны спявалі весела, а гэтае хоча пусціць іх на самапас. І вось што выходзіць:

Шчэ не паэт, а ўжо ізгой,
і спасцігаць яму не проста,
завошта шчодрага яго
змушаюць да жабрацкіх просьбаў.

Вітаючы прыход новых, юных, духоўна чыстых патрыятычных сіл, пераважна з вёсак, паэт смуткуе, што іх мала, але і верыць у незнішчальнасць ідэі справядлівасці, свабоды, красы:

Толькі мала іх, яшчэ так мала…
Ім у тлумных вулках гарадскіх,
у перанаселеных кварталах
нестае падобных да саміх.
Блісне вера ў сэрцах іх збалелых –
весялеюць позіркі ва ўсіх,
і тады на вулках белым-бела,
светла скрозь на Белай іх Русі.

Дрымучая абыякавасць грамадства і выклікае ў некаторых адчуванне непатрэбнасці («Крылаты»), і даводзіць да духоўных зломаў, страты крылляў, выпадзення на задворкі жыцця:

Адзіны раз было –
ён змог узняцца над задворкам.
І вось – аслепленасць, надлом,
шлях у нявер’е
з лёгкай веры...
Намацвае другім крылом
знаёмыя чужыя дзверы.

Не ўпадае паэт у безнадзейнасць і засцерагае ад упадку духу сваіх сяброў па творчасці, нагадвае, што ім даводзіцца мець справу са святымі і духоўнымі скарбамі народа, а гэта сродкі лекавыя, нават уваскрасальныя:

Краса, паэзія, Айчына
слязінкаю раз’ясніць зрок,
і вам адкрыецца магчымасць
убачыць прышласць хоць на крок.

Бачыць ён і небяспеку заабыякавення душ саміх паэтаў, ён не хоча перакладваць віны за вяласць працэсу духоўнага адраджэння на народ, бо не ідэалізуе народ, бачыць заўжды, што ён складаецца з людзей, а людзі розныя:

Дарэмна пытацца ў народа,
адкуль ён ідзе і куды.
«Дык я найчасцей з агарода,
да студні, стуль – зноў да грады».

Не толькі ад долі сярмяжнай –
ад волі яго радавод.
Пакорлівы ён і адваджны,
лайдак і руплівец – народ.

* * *

Не пераймае і не падзяляе паэт індывідуалістычных наракканняў на смерць і марнасць жыцця, хоць тэмы быцця і небыцця з'яўляюцца ў яго скразнымі. Выказвае ён іх вітальна і так моцна, што маглі б пазайздросціць паэты розных кірункаў. Вось пару радкоў з верша «Непакойчыцы». Ідзе навальніца, дождж хвошча па рацэ:

Хвіліна – і карэнне занядужае,
і зліжа дрэвы
брудны вадасцёк.
Магчыма, дождж апошні...
У зацятасці
ён нават косці вымые з магіл.

Далей, як кажуць, няма куды. У прынцыпе, паэтычны свет А. Каско не пераразвон, але альтэрнатыва песімістычнаму свету экзістэнцыялістаў: ён бывае трагічным, а ўсё ж з надзеяй, з сэнсам жыцця, хоць і мройнага, але не адарванага ад свету рэальнасці:

У сне зорна-сінім я лётаў высока
і стойваў дыханне над роднай зямлёй,
а поўня, прыроды нядрэмнае вока,
мяне сцерагла і сачыла за мной.
І свет адкрываўся мне ісцінай простай:
ні рэк, ні аблокаў не спыніцца ход...

Паэт дапускае дадзеную некаторым людзям здольнасць прадчування і прадказання, пранікнення ў алагічнае, таямнічае. Ён лічыць праявы звышчуласці, звышуражлівасці і акцэнтуіраванай асобы як рысы блізкія і ўласцівыя творчым натурам. Калі я чытаў яго верш «Былі і ёсць яны, месіі», дык мне прыгадаўся аднатэмны твор польскага паэта Казімежа Дамброўскага «Пасланне псіханеўротыкам». Хацелася прасачыць аналогіі, але стрымала тое, што А. Каско таго верша не мог чытаць, а пераклічка зместу выпадковая, абумоўленая

пратэстам беларускага паэта супраць знячуленасці і рыгарызму мінулага грамадства, што балюча біла па самых уражлівых, не разумеючы, што:

Адна ў іх мэта – дух раскуты,
любоў адзіная ў грудзях,
адзін і той жа знак пакуты,
і Юда той жа, і суддзя.

Як відаць, прычыны канфліктаў тут спецыфічныя, «айчынныя»: манія рэпрэсіўнасці, культ уніфікацыі ўсіх і ўсяго на планеце, такая дасталася эстафета ад сталінскай клікі.

Адраджэнскі рух, хоць і праходзіў у Беларусі не гладка, прабіваўся цераз сцяну русіфікацыі, нізкапаклонства перад старэйшым братам, правінцыяльнай заскарузласці, слаба ваяваў з цемрашальскаю прапагандай рэтраградаў, паклёпамі на беларусаў як нацыю, прыніжэннем яе мовы, гісторыі, культуры. Цемрашалы пачалі выдаваць сябе вучонымі, якія знайшлі беларусам іх шасток у расійскім куратніку. Усё гэта дапаўнялася дэфектыўнай рупнасцю дзеячаў вышэйшага эшалона новай улады, што прынялі суверэнітэт Беларусі за тавар, які можна абмяняць па бартэры з Расіяй на бензін, салярку, мазут ды іншыя энерганосьбіты, а з палякамі – на барахло. Уся гэтая панурая і брудная афернасць даводзіць маладых патрыётаў да белай гарачкі: спрэчкі пераходзяць у сваркі, што дае ў рукі беларусафобаў новыя зачэпкі, повад лямантаваць пра беларускі нацыяналізм, нават прывіды фашызму.

Да гонару берасцейскіх літаратараў, прыемна сказаць, што ніводзін з іх не сарваўся, адстойваючы правы народа і свае правы на нацыянальную годнасць. Самыя здольныя і інтэлектуальна ёмкія – Ніна Мацяш, Алесь Каско, Мікола Пракаповіч, Зіна Дудзюк – пайшлі шляхам навукоўцаў – да першакрыніц старажытнай гісторыі, мовы, пісьменства і новай, той, калі ўжо беларуская ідэя вырасла ў праграму незалежнасці. Зразумела, паэты не заменяць гісторыкаў, пераймаць не будуць: у іх свой метад, у ім дамінуе інтуіцыя, і свая задача. З. Дудзюк назвала свой дослед гісторыі «Алхіміяй»:

Сціраю пыл гісторыі,
Не засціце святло.
Чарую над рэтортаю,
Прабіркаю, катлом.
Зліваю і разводжу
Стагоддзі тых плямён,
Што з вечнасці выходзілі
Без вестак і імён.

Творы берасцейцаў на гістарычныя і грамадзянскія тэмы нясуць важкі і дакладны фактаграфічны багаж, а ў дадатак многія з іх напоўнены аўтарскімі лірычнымі адступленнямі, дзе раскрываецца важнасць свайго радаводу. Добра ўплывае на змястоўнасць патрыятычнай лірыкі ўнутраная патрэба арыстакратызму, што належыць стваральнікам духоўных каштоўнасцей. Здаровая элітнасць ва ўсіх народаў выводзіла нацыянальныя святасці на святочныя покуці, пад іконы, увяла паэтаў у лік лепшых людзей нацыі. Глыбока закрануў гэтую тэму М. Пракаповіч у шэрагу вершаў пра пяснярскі лёс і родную мову. У вершы,

прысвечаным М. Купрэеву, паэту, які пад уплывам Адраджэння зрабіў такі значны крок у творчасці, што нарэшце пісьменніцкая грамадскасць прыняла яго, вясковага настаўніка ды пенсіянера, у пісьменніцкі саюз, М. Пракаповіч намякае, што позняе прызнанне талентаў абумоўлена былою плебейскай ментальнасцю, комплексам непаўнацэннасці, вымешчаным дзецьмі-перакульшчыкамі на бацьках:

Яшчэ ты жывеш у хатах...
Але прыязджаюць дзеці –
і туліцца вінавата
мова ў хлявы і клеці.

Элітаю сталі ўрбанізаваныя і абруселыя хлюсцікі. Пра іх і пра сябе сурова адазваўся М. Пракаповіч у вершы «Вялікі паход»:

Чужынцы на сваёй зямлі,
мы да мяжы апошняй падышлі,
адрынутыя небам і вадою,
шляхі свае пазначылі бядою.
На капішчах агонь пагас,
брыдзем у свет ардою невідушчай.
...О, як яшчэ зямля трывае нас,
бяспамятных, бязмоўных і бяздушных?!

Здавалася, што М. Пракаповіч і А. Каско запелі тут пра народ ва ўнісон, але гэта не зусім так: першы бачыць уніфікаваныя дзеянні роднай масы супраць сябе і сыходзіць да клёнічаў, а другі бачыць народ супярэчлівым і не раіць нікому ідэалізаваць яго, пакладацца толькі на яго, бо «пакорлівы ён і адважны, лайдак і руплівец – народ». Пакладацца варта і патрэбна на лепшую ўсвядомленую частку народа, а другой дапамагаць узняцца над слабасцямі і занядбанасцю.

Уладзімір КАЛЕСНІК

# СКРАЗНАЯ ЛІНІЯ ПАЭТА

*Пасля добрай кніжкі вершаў –*
*як пасля ліпеньскай навальніцы:*
*дыхаецца лёгка і глыбока.*
***А.Каско***

Няма сумнення, што кожны сур’ёзны паэт перыядычна разважае над сутнасцю і плёнам сваёй творчасці. Пытанні – што, як, навошта, каму і дзеля чаго? – не пакідаюць яго галавы ні ў час душэўнага раздраю, ні ў перыяд грамадскіх катаклізмаў, ні ў хвіліны натхнення і жыццёвай эйфарыі...

Класічнае шэкспіраўскае пытанне быць ці не быць? – ёсць і пытаннем мастацкай творчасці.

Безумоўна, што ўсім хочацца быць. Больш за тое – застацца. Але – як, якім чынам гэтае жаданне спраўдзіць? Можна задаць пытанне прасцей і дакладней: як паэту і творчаму чалавеку ўвогуле спраўдзіць сябе, пакінуўшы чалавецтву, узамен свайго кароткага зямнога існавання, свае мастацкія адкрыцці і духоўныя «запаветы»?

Дылетанты абыякавага жыцця могуць пасміхнуцца чытаючы гэта, але тыя, хто спрабуе ўразумець непаўторнасць чалавечай асобы пад высокім боскім небам, пагодзяцца, што лёс паэта ствараецца самім Словам. А ўжо словы аплятаюць той лёс драматычнымі калізіямі, бо патрабуюць высокай кроўнай платы за кожны свой знак на папірусе вечнасці...

Вось як гэта выяўлена ў адным з вершаў Алеся Каско:

Нібы вязень, імкнуўся да волі –
волі слова, яго хараства.
І, зазнаўшы пакутаў, засвоіў
я прыроду свайго рамяства.

Імкнуцца да волі, а зазнаць пакуты? – калі не абсурдная, то парадаксальная сітуацыя, аднак, настолькі бясспрэчная і зразумелая ў нашай грамадскай рэчаіснасці, што дзіву даешся, як не ўцямяць таго некаторыя цяперашнія «барацьбіты» за волю, а па сутнасці – нявольнікі свабоды... у тым ліку і людзі ад літаратуры...

Можна напісаць процьму прыгожых слоў, так нічога і не сказаўшы. Бо перш, чым напісаць слова, трэба напоўніць яго энергіяй душы і падпітаць высокай духоўнай верай, засцярогшы – пэўным чынам і да пэўнага часу, бы громаадводам, – свой зроблены ці яшчэ магчымы зямны грэх ад Божага гневу...

Паэт ёсць сімвал духоўнасці асобнага чалавека, а паэзія – сімвал духоўнай эвалюцыі ўсяго чалавецтва. Вядома, суб’ектыўна і смела заяўляю гэта, аднак небеспадстаўна. Вось працытую некалькі асабліва важных для майго разумення Слова-Бога і Бога-слова радкоў з «Боскай камедыі» вялікага Дантэ Аліг’еры ў рускім перакладзе М. Лазінскага (папярэдне перапрашаю ў А. Хадановіча і Ул. Скарынкіна):

Когда правдиво речь твоя звучала,
Ты дал смутиться духу своему, –
Возвышенная тень мне отвечала. –
Нельзя, чтоб страх повелевал уму;
Иначе мы отходим от свершений,
Как зверь, когда мерещится ему.

І наўздагон – яшчэ гэтыя, што здымаюць усе чалавечыя пытанні наконт Слова, не даючы адказу па сутнасці:

О, если б слово мысль мою вмещало, –
Хоть перед тем, что взор увидел мой,
Мысль такова, что мало молвить: «Мало!»
О, Вечный Свет, который лишь собой
Излит и постижим и, постигая,
Постигнутый, лелеет образ свой!

Ненавязлівы паэтычны сімвал нябачным ценем суправаджае ўсю творчасць паэта Алеся Каско. Давайце толькі ўслухаемся ў тонкую метафорыку назоваў яго кніжак у тым парадку, як яны выходзілі ў свет: «ВЕСТКА» (1979) – «СКРАЗНАЯ ЛІНІЯ» (1982) – «НАБЛІЖЭННЕ» (1989) – «ЧАС ПРЫСУТНАСЦІ» (1994)...

Можна сінанімізаваць гэтыя назовы ў своеасаблівы літаратурны рад:

ПАЧАТАК – МЭТА – ДАРОГА – ЖЫЦЦЁ...

Альбо: СЛОВА – ШЛЯХ – ПЕРААДОЛЕННЕ – ЛЁС...

Ужо з першых кніжак, вычуўшы нутром сваё духоўнае прызванне, паэт паставіўся да ўласнага жыццёвага кону з ўсёй магчымай адказнасцю. Рэдкі верш у яго быў прахадным, а слова абманным. Так, яно яшчэ магло быць выпадковым, немілагучным і каструбаватым, але заўжды – шчырым і безабаронным у адносінах да выяўленых ім рэчаў і дзей. Шчасціла яму і на слынных настаўнікаў (Уладзіміра Калесніка, Міколу Купрэева, Алеся Разанава), і на таленавітых сяброў (Міколу Пракаповіча, Анатоля Шушко, Васіля Сахарчука, Ніну Мацяш)...

Няшчасціла часцей, аднак, доля ведала сваю меру...

Галоўнае – быў зададзены лёсавызначальны пастулат: «Не сілю сябе пісаць, калі не пішацца, сілю – жыць, калі жыць не хочацца...»

І ўжо ад самага «вытоку» было намацана «дно» жыцця, яго крэўнае апірышча: Айчына, род, мова, любоў і вера... Можа таму і была такой адчайнай яго мальба на ўласных творчых «заручынах» з Музай:

О лёс мой, выказацца дай,
не забяры мяне заўчасна
ў далечу тую, дзе так часта
мне будзе сніцца любы край.

Не стане моцы – і няхай! –
у памяці, руцэ, у зрэнцы...
Усё вазьмі – і толькі сэрца
пакінь і выказацца дай.

Праблем з выбарам Айчыны ў людзей не бывае. У кожнага яна ёсць ад пачатку – тая ці іншая, але – адзіная да скону. І нашая любоў ці нянавісць да яе, як ні дзіўна, раўназначныя, бо – роднасныя і сыноўнія. Адсюль, як да прыкладу, у Алеся Каско – дзве палярна-прыцягальныя (закон магнетызму) праявы душы да аднаго цэлага:

Ты, народ мой, – не слабы.
Дзецюкі! Слязу сатрыце,
для вялікае касьбы
свае косы навастрыце.
Біце ў звон ва ўсе канцы
ў непахіснасці і веры.
Сёння вы яшчэ касцы,
заўтра вы – касіянеры.
Заўтра – з крыўдай змагары,
ганьбаю, жыццём ярмовым
і, бог дасць, гаспадары
і зямлі сваёй, і мовы.

Гэта з верша «1862 год. Слова Каліноўскага», напісанага напрыканцы 80-х, у стыхійна-адраджэнцкі час перабудовы. А вось матыў з самай песімістычнай кніжкі Алеся Каско «45»:

Здавалася б: ну, вось ён, Храм,
што збудавалі пакаленьні!
Стаў на парог – а ў храме Хам
сагнуў калені не ў маленьні.
Сядзіць і гнюсіць на алтар
ахвяр, што мерлі за свабоду.
Ён – валадар, ён – гаспадар
свайго прыходу і смуроду.
А людзі тупа на брыду
ўтаропіліся, бы авечкі...
...Я нізавошта не ўвайду,
не запалю ў тым храме свечкі.

Менавіта гэты час і быў, на мой погляд, пераломным у творчасці Алеся Каско. Пераезд з раённага цэнтра (Жабінкі) у абласны (Брэст) і пытанні ўласнага жыццябыту наклаліся на ўсенародны рэферэндум па пытаннях –«жыцця і смерці» – яго мовы, а па вялікім рахунку, і самой яго творчасці... На фоне гэтай змрочнасці былая правінцыйная самота падавалася проста смешнай і па-дзіцячаму наіўнай. Ну вось як, скажам, у вершы «Мінскім сябрам» з ужо ўпомненага «перабудоўчага» зборніка «Набліжэнне»:

Весялей вам жывецца на свеце:
і сябры ёсць, і кніжак стае.
Я ж – працую ў раённай газеце,

і пішу, і чытаю яе.
…………………...
Мой рэдактар..................
Завітаць загадае-папросіць
і крытычна гаворку вядзе:
ты, маўляў, хай у рыфму, ды – проста,
хоць бы гэтак, як Віктар Гардзей.

Але ўжо ні да Гардзея, ні да яго вершаў было Алесю Каско ў другой палове 90-х... Тады, здавалася, усё, што ты спарадзіў, выняньчыў і ўзгадаваў у глыбокім таемстве сваёй душы, усе тыя спадзевы і праявы новага «суверэннага» жыцця, як люстэрка ў хаце нябожчыка, захінуліся чорным сукном жалю і самоты... Паэты могуць перажыць і знесці ўсе нягоды жыцця, пакуль у іх ёсць асабісты творчы храм, што засцерагае ад замаху злых і варожых іх духу сіл. Аднак было б здрадай чытачу схавацца там адно толькі для малітвы дзеля захавання ўласнай душы, нібы манаху ў сваёй манастырскай келлі. Паэзія, адмежаваная ад людскога свету, страчвае сваё галоўнае прызначэнне – быць духам над прахам... Бо калі наступае духоўны крыз, то чалавек як бы апынаецца адразу на двух шалях адных вагаў: што ж пераважыць і ці не лепш трымаць раўнавагу?

І стаіць такая ціш,
што вярэдзішся пытаньнем:
а ці ёсьць жыцьцё паміж
росквітам і адцьвітаньнем?

Тут міжволі «задасіся акудовічавым пытаннем» свайго небыцця не толькі ў літаратуры, але і ўвогуле... І само вершаскладанне, раптам, можа падацца не паэзіяй, а проста рамяством, як вось у гэтым аднайменным вершы:

Калі ў свой лёс бракуе веры,
няшмат і ў слове глыбіні.
Як часта мы ўскладняем вершы,
каб не спрасьціць іх да гульні.

Але гэта – «ўсё словы, словы, словы»... Іх плоць, закарэлая і, паводле Гумілёва, «дурно пахнущая», дыхціць тытунём і капустай з вуснаў шасці мільярдаў падобных да цябе людзей... І тыя вульгарна-будзённыя словы пад сілу ўтаймаваць толькі сапраўднаму майстру, калі на дапамогу яго сляпому натхненню і празорлівай інтуіцыі прыходзіць помны і мудры, але не казённы вопыт пражытага:

Над старасьцю,
над непазбежным горам
таймуем гукі, фарбы – гэтак творым
з пагрозьлівага сьвету
ўласны сьвет.

Галоўнае тут – захаваць самасць: не купіцца на пустое і не прадацца за грош. І ў расе, і ў слязе бачыць не бліскучае, а блізкае табе да спазмаў сэрца: ці то траву пад вострай касой, ці то мацярынскія вейкі перад чорным векам... Жыццё адольвае ўсё...

Новая кніжка Алеся Каско «Трохкроп'е» засведчыла, што «адраджэнне з попелу» – гэта не толькі міфалагема, але і метафарычная праява сучаснай рэчаіснасці. Праўда, мне, як і беларускай граматыцы, болыш імпануе слова «шматкроп'е». Кажуць, што я ім часта злоўжываю... Гэтым разам свядома «злоўжыў трохкроп'ем» і Алесь Каско, мабыць, маючы на ўвазе тры раздзелы зборніка (вершы, пераклады і запісы). Відаць, тым самым аўтар як бы хацеў паставіць тры паасобныя кропкі ў сваёй творчасці, гэткім чынам засярodзіўшы ўвагу на ўласнай літаратурнай пунктуацыі сваіх (і нашых!) нешматлікіх чытачоў. Дарма. Бо зноў жа – куды ні кінь вокам па кнізе – самае малое, на што яе змест, як і форма, дарэчы, напрошваюцца – гэта шматкроп'е... і магчымае абяцанне працягу... І хоць асобныя вершы паэта завуаліраваны эзопавай мовай, падтэкстамі і двухсэнсоўнасцю, чаго вымагае часцэнзар, аднак, паўвекавога аўтара, па-танкаўску беспардонна, «выдае попел», хоць ужо сівы і халодны:

А з выракаў ды злых папрокаў
так шырока расце мана,
што ўзносіць люд ілжэпрарокаў,
паколькі... праведных няма.
Альбо:
Дай мне, доля, за Ракою
бераг росны, трапяткі,
каб забраць я мог з сабою
веры й мовы чарапкі.
Хоць на сколках незлічоных
хай крынічыла б святло...
Калі ж не – дай чорны човен,
каб нічога не было!

Бо – «Гідка думаць, што я паэт: // у айчыне – ды без Айчыны...». Шчыра кажучы, гэтыя думкі небяспечныя самі па сабе, і, крый Божа, ім матэрыялізавацца (ёсць такая кішэнна-багемная тэорыя пра матэрыялізацыю мастацкага слова), хоць зразумець аўтара можна, прыпомніўшы, да прыкладу, выдатныя, вышэй працытаваныя радкі: «Усё вазьмі – і толькі сэрца // пакінь і выказацца дай». Што праўда, то неўзабаве паэт спрабуе як бы апраўдацца перад чытачом за гэты свой душэўны нечалавечы адчай:

Немагчыма было ўжо вярнуцца
да ранейшых сябе, да ветру і свету,
а ўрэшце і да несапраўднага жыта –
гэта жыта без васількоў.

Калі хто не зусім разумее пра што тут рэч, то нагадаю пра вызначэнне Максімам Багдановічам паэзіі як «чыстай красы», а яшчэ эсэ ў «ЛіМе» чатырохгадовай даўнасці Алеся Разанава «Жыта і васілёк», не выключаючы адсюль, безумоўна, і сучасных

грамадска-палітычных падтэкставых паралеляў. Хлеб надзённы і хлеб духоўны – непадзельныя, гармонія ўраўнаважвае чалавечае жыццё і засцерагае свет ад хаосу – вось тэзы, якія паэт спрабуе творча, а значыць, суб'ектыўна трактаваць. (Тэмы не новыя, але што «новае пад сонцам»? – хіба што наш погляд на гэтыя тэмы.) Ды ў параўнанні з Эклезіястам, Алесь Каско яшчэ які прасветлены аптыміст! А значыць, недалёка той час, калі цёмны начны полаг спадзе з усходу і сонца нарэшце высвеціць любы наш край сярод людскага свету...

Інакшы храм і час. І плач
тут не ўспрымаецца сур'ёзна.
Не спавядайся ж гэтак слёзна,
памерлай музыкі скрыпач!
Над муміямі слёз не льюць,
дык прэч адсюль, каб недзе босым,
расхрыстаным – зайграць нябёсам:
яны шчэ здатныя пачуць.

Па тэксту зборніка адчуваецца, што «жніво душы» яшчэ не пачалося, бо яшчэ палавее жыта і спеліцца зерне ў коласе..., але спавядальныя ноткі ў голасе ўжо трымцяць на вуснах вялікага грэшніка... А як гэта іначай назваць, калі нават пра каханую паэт піша дагэтуль у беларускай паэзіі малачуванае: «Ты мне ў душу жыццё ўдыхнула, // калі пакінула мяне». Альбо, як без трымцення сэрца чытаць такія пранізлівыя радкі:

Адно за адным
абліччы знікалі – знікалі, як дым.
Усім,
каму быць мог за роднага брата,
хто судзіў неперадузята
ды з бязладдзя вярнуцца мне радзіў, –
я здрадзіў.
Няма іх, чакай не чакай...
Ты – не самая большая страта.
Бывай.

Аднак усё часцей і часцей з'яўляецца ў паэта адчуванне гатоўнасці як прыняць дар (плён творчасці), так і стрымаць удар (аўтарскую няўдачу). Адсюль і гэтае самаўсчуванне, а мо папярэджанне іншым:

Пабольш бы ў песні светлыні,
паболей звонкасці, спакою...
Ды стане песня не маёю,
не пра мае раскажа дні.
Сярод маны і мітусні
ёй сорамна перад сабою
ўзнікаць з прытворнага настрою,
з азартнай слоўнае гульні.

Прызнаюся, як чытач, я насцярожана чакаў разрадкі ад «сціснутай у адным сэрцы» празмернай негатыўнай энергетыкі, якую паэт прыняў на сябе ад акаляючага свету, але ўсё ж я не верыў, што чалавек, які жыў любоўю і дабром, можа загінуць пад навіслым над ім варожым прэсам зла і нянавісці. Толькі б само сэрца яго вытрывала той бязмерны напор зямнога дабра і любові – вось што трывожыла мяне... І хоць чакаў я менавіта апафеоза паэзіі, але ўсё адно быў агаломшаны, здзіўлены і збіты з інтэлектуальнага панталыку гэтымі пяццю заключнымі (для мяне) радкамі пакаяльнай евангельскай паэзіі:

Было гнятліва, скрушна ўчора,
а сёння – Бог даў – дзень як дзень.
За шклом з дажджынак незлічоных
грак мільгануўся – чорны-чорны,
як быццам вылецеў з грудзей.

Апошні радок, на маё меркаванне, – «томов премногих тяжелей»...

Дзякаваць Богу, жыццё ўзяло верх. Паэзія трыумфуе. Чарговы паэт з перыферыі зноў «напляжыў» у банкетнай залі сталічнай багемы, не прамінуўшы напаследак заявіць і такое:

«*Кепска не тое, што пішам кепскія вершы, – ад гэтага ніхто не застрахаваны, – а тое, што кепскія вершы друкуем. Яны рана ці позна «ўсплываюць на паверхню», і тады одумнаму аўтару (графаману, зразумела, усё роўна) сорамна за іх. Нават калі іх не крытыкуюць, а, наадварот, хваляць у артыкулах, уключаюць у тэматычныя зборнікі, чытанкі, альманахі, дэкламуюць са сцэны. З аўтарам, як правіла, не раяцца, бяруць на свой густ, і нічога не зробіш: што апублікавана – ужо не зусім тваё... Зведаўшы ўсё гэта на сабе, думаю не без самаіроніі: ці цалкам праўдзівы лацінскі крылаты выраз scripta manent (напісанае застаецца)? Застаецца надрукаванае, і, на жаль, не толькі тое, што вартае заставацца*».

Што праўда – то праўда. А што можна дадаць да самой праўды? Хіба яшчэ раз ненавязліва падкрэсліць самабытны і выбітны па сённяшнім часе талент паэта Алеся Каско. Не для таго, каб помнілі, што ёсць, а для таго, каб ведалі, што – будзе...

Леанід ГАЛУБОВІЧ

Для чытачоў (актыўных удзельнікаў аматарскіх аб'яднанняў, літаратурных гурткоў, гасцёўняў), зацікаўленых творчасцю нашага земляка, паэта, перакладчыка і журналіста Алеся Каско, рэкамендуем правесці ў бібліятэках вобласці літаратурную вечарыну **«Іду я чэрпаць сутнасць святла...».** Да вечарыны, як і звычайна, ладзіцца кніжная выстава-прагляд, тым самым удзельнікам мерапрыемства даецца магчымасць пазнаёміцца з асобнымі зборнікамі паэта, калектыўнымі выданнямі, публікацыямі ў перыядычным друку. Пры афармленні выставы неабходна выкарыстоўваць бібліяграфічны паказальнік.

## «Буслоў не ведаю бяздомных...»

*(Матэрыялы да кніжнай выставы)*

*Цытата:* «Яно душы – першааснова:
там, у нязмернай глыбіні,
ёсць боль – боль нараджэння слова,
якога нельга запыніць»[1].

*Раздзел I.* ***«О лёс мой, выказацца дай...»***
(Паэтычныя зборнікі аўтара, газетныя і часопісныя публікацыі яго твораў)

*Раздзел II.* ***Нялёгкія хвіліны набліжэння:*** абрыс творчага партрэта
(Літаратура аб жыцці і творчасці паэта)

## «Іду я чэрпаць сутнасць святла...»

*(Прыкладны сцэнарый літаратурнай вечарыны)*

***<u>Вядучы 1:</u>*** «іду я
чэрпаць сутнасць святла
і не ў сілах спыніцца
іду я
з жарсцю ў грудзях
і азораны вочы мае
прагай пазнання
іду каб увайсці
ў дом любові
і адлучаецца
слова ад цемры
каб згарэў я
ў ягоным вуголлі
каб згінуў
каб быў»[2].

1 Каско, А. Сумленнае слова // Набліжэнне : вершы. Мн., 1989. С. 21.

2 Каско, А. Кніжнік. З македонскіх матываў / А. Каско // Каско А. Нічога больш : вершы і пераклады. – Брэст, 2011. – С. 21.

Паважаныя аматары паэтычнага слова!

Вядомы літаратуразнаўца Варлен Бечык вызначыў паэзію «як самы чуйны і дасканалы орган душы народнай... Ёй наканаваны неспакой, трывога, незадаволенасць...»[3]. Сапраўдны Паэт заўсёды вызначаецца абвостраным успрыманнем свету.

Адметна і ўпэўнена ў сучаснай беларускай паэзіі гучыць голас Алеся Каско. Услухайцеся ў гэтыя словы...

***Чытальнік:*** «О лёс мой, выказацца дай,
не забяры мяне заўчасна
ў далечу тую, дзе так часта
мне будзе сніцца любы край.

Яго вяснянкі, пошум дрэў
заўжды ўва мне, як сіла ў ветры,
і спеляць збуджаныя нетры душы
мой заўтрашні напеў.

Дай слову добраму ўзрасці,
пакуль я на жыццё багаты.
Шчаслівы сейбіт і араты, дзён
для жніва мне адпусці.

Не стане моцы – і няхай! –
у памяці, руцэ, у зрэнцы...
Усё вазьмі – і толькі сэрца
пакінь і выказацца дай»[4].

***Вядучы 2:*** Алесь Каско –– паэт філасофска-інтэлектуальнай плыні нацыянальнай літаратуры. Роздум аб лёсе і будучыні беларусаў і чалавецтва, праблемах быцця і небыцця асобы, чалавечай душы, экалагічных і грамадскіх катастрофах – гэта найсур'ёзнейшая філасофія сучаснасці. Вершам яго ўласціва вынашанасць думак, перажыванняў, рэалістычная дакладнасць дэталяў, глыбокі эмацыянальны падтэкст. Кожны новы зборнік паэта выходзіў з дастаткова вялікімі прамежкамі часу і абстрактнымі назвамі: «Вестка» (кніга вершаў у калектыўным зборніку «Нашчадкі» з серыі «Першая кніга паэта» (1979), «Скразная лінія» (1982), «Набліжэнне» (1989), «Час прысутнасці» (1994), «45» (1996), «Трохкроп'е» (2001), дзве дзіцячыя кнігі: «Чыстага ўсё нячыстае баіцца» (2001) і «Два сонцы» (2004), «Трохперсце» (калектыўны зборнік вершаў паэтаў Берасцейшчыны; 2008), «Нічога больш» (2011), «Прыадхінуты небасхіл» (2012).

Нялёгкія хвіліны набліжэння да сапраўднага творчага плёну, да таямніц паэтычнага майстэрства патрабуюць вялікага духоўнага напружання, нястомнай работы.

3 Бечык, В. У чаканні галоўнага: слова ў дыскусіі пра сучасную паэзію // Выбранае. Мн., 1989. С. 469.

4 Каско, А. О лёс мой, выказацца дай... // Трохперсце : зборнік вершаў паэтаў Берасцейшчыны / склад. Л.. М. Галубовіч / Мн., 2008. С. 117–118.

*«...Мне наогул не часта пісалася, а цяпер абыякавасці і ляноты – адбаўляй. З-за ўзросту, бязладдзя, вэрхалу?.. Выняў з тэчкі аркушык, скрэмзаны алоўкам. Мала што расчытаў на ім, хоць што да чаго – цень верша – памятаў. Памкнуўся ўзнавіць – не пайшло...*

*...Уранку верш з'явіўся. Па сутнасці, новы. Так бывае: пачынаеш дапрацоўваць адзін, а нараджаецца іншы. Ды дзе яго выток? Справа, пэўна, у тым, што па гарачым следзе нічога людскага не атрымліваецца: спачатку перажытае павінна адстаяцца, перабрадзіць, каб некалі праявіцца як бы само па сабе, як бы з ніадкуль. Таму і не ўцямваецца, губляецца ў глыбінях памяці выток.*

*Старое грае, сам стары,*
*з усхліпам, зболена, мінорна.*
*Не чуюць...»*[5].

***Вядучы 1:*** Нарадзіўся Алесь Канстанцінавіч Каско 10 снежня 1951 года ў вёсцы Чудзін Ганцавіцкага раёна. У 1968–1976 гг. з перапынкамі (нядоўга настаўнічаў у вясковых школах, служыў у арміі) вучыўся ў Брэсцкім педінстытуце імя А. С. Пушкіна на беларускім аддзяленні філалагічнага факультэта. Потым працаваў карэспандэнтам жабінкаўскай раённай газеты «Сельская праўда», рэдактарам на Брэсцкай абласной студыі тэлебачання. Быў адказным сакратаром абласнога аддзялення СП Беларусі, дзе праявіў сябе як арганізатар пісьменніцкай суполкі, заснавальнік серыі аўтарскіх кніг «Берасцейскае вогнішча». Дзякуючы нястомным намаганням Алеся Канстанцінавіча, у полі зроку пастаянна былі маладыя паэты. Алесь Каско пісаў рэцэнзіі, прадмовы да іх зборнікаў, чым заслужыў павагу ў літаратурным асяроддзі. Алесь Каско – лаўрэат літаратурных прэмій імя А. Куляшова, У. Калесніка, міжнароднай прэміі імя Г. Краснапёркі. Пасля вяртання ў Жабінку кіраваў раённым літаб'яднаннем «Плынь» пры газеце «Сельская праўда» і літаратурнай студыяй «Вестка» пры Жабінкаўскай раённай дзіцячай бібліятэцы.

***Вядучы 2:*** Свае першыя вершы Алесь надрукаваў яшчэ школьнікам у раёнцы «Савецкае Палессе», а паэтам стаў у студэнцкія гады. У той час у інстытуце існавала творчая атмасфера, літаратурным студэнцкім аб'яднаннем кіраваў Уладзімір Калеснік, выдатны літаратуразнаўца, крытык, настаўнік і руплівы апякун літаратурнага руху Берасцейшчыны. У сваім артыкуле «Паэтаў лёс і воля-вольніца» Уладзімір Калеснік аб студэнце Каско піша так: «... быў неаб'езджаным тарпанам, не ўмеў укладвацца ў вузаўскі рэгламент, аказваўся ў ліку парушальнікаў інтэрнацкіх правіл пражывання», быў «порсткім максімалістам», «рэалістам і праўдалюбам, ён дзяліў людзей не паводле ўзросту, а паводле адносін да беларускай справы, да Радзімы»[6]. Паэту-пачаткоўцу павязло. Студэнцкім лідэрам і ўзорам для інстытуцкіх паэтаў у той час быў Алесь Разанаў, якога перавялі са сталічнага ўніверсітэта ў Брэсцкі педінстытут за патрабаванне выкладаць прадметы на беларускай мове. Разам з Алесем Каско вучыліся яшчэ і Мікола Пракаповіч, Ніна Гарагляд, паэты сапраўдныя, таленавітыя, якія засталіся верныя Айчыне і беларускай мове. Паслухайце, якія словы прысвяціў Алесь Каско свайму настаўніку, грамадзянскаму ідэалу Уладзіміру Калесніку:

5 Каско, А. Адзін дзень майго жыцця: 14 траўня // Крыніца. 1998. № 8. С. 88.

6 Калеснік, Ул. Паэтаў лёс і воля-вольніца // Полымя. 1994. № 12. С. 211–216.

***Чытальнік:*** «Ёсць, дзякуй богу, і цяпер
каму павесці за сабою
і лініяй перадавою
трымаць аголены свой нерв.

Яно вядома: не ў вайну,
тут іншы фронт...
А ўсё ж ці проста
ўставаць і крочыць поўным ростам,
браць і адстойваць вышыню?

І калі цяжка – кожны раз
нам свецяць лёсы агнявыя,
каб ведалі: не бог нас крые –
салдаты прыкрываюць нас»[7].

***Вядучы 1:*** «Вестка» – так коратка і ёмка называлася кніга вершаў Алеся Каско ў калектыўным зборніку «Нашчадкі» з серыі «Першая кніга паэта» (Мн., 1979). Ёсць тут невялікі, але характэрны для паэта верш «Адкрыццё», які завяршаецца ўсхваляваным прызнаннем:

***Чытальнік:*** «Маленства светлая пара
мне помніцца імгненнем:
над Руссю Белаю
зара
іскрыла чыстыя праменні.
Буслы кружыліся, плылі
над вёскай,
полем,
вадаёмам,
і белы сыпаўся наліў,
і ветрык пахнуў
так знаёма...
Краса зямлі маіх бацькоў
кранулася мяне,
малога,
і я пазнаў
сваіх буслоў,
сваю зару,
сябе самога»[8].

7 Каско, А. Пераемнасць // Набліжэнне : вершы. Мн., 1989. С. 7–8.

8 Каско, А. Адкрыццё // Нашчадкі : зборнік паэзіі. Мн., 1979. С. 111.

***Вядучы 2:*** Першую асобную кніжку вершаў Алеся Каско «Скразная лінія» (Мн., 1982) Уладзімір Калеснік назваў «інтэлектуальным феноменам, які раздзяляе супярэчлівасці быцця, а ў той жа час і злучае нешта стрыжнявое ў ім... »[9]. Моцны бок зборніка – вершы пра каханне, любоў да прыроды, бацькаўшчыны. Паўсюдна, на якую б тэму ні пісаў Алесь Каско, у яго прысутнічае прырода. Прырода ў кожным вершы. «Яна працінае ўвесь зборнік. Яна – скразная лінія. Скразная лінія кніжкі... Яна – вясёлая і роспачная, цёплая, але ніколі не страшная. Не халодная, бо свая»[10].

***Чытальнік:*** «Буслоў не ведаю бяздомных,
яны вяртаюцца дамоў,
да родных, да сваіх гняздоўяў,
да хмельных траў і туманоў.

Як неад'емнае: над грушай
птах белы крылы распасцёр...
Яго святлом
світае ў душах любві
святое пачуццё.
З нас не адзін спазнае плату
за скарб,
які пад крыллем лёг.

Не аднаму яшчэ заплакаць,
упаўшы на чужы мурог.
А неба роднае падыме ў
каторы раз,
як тых буслоў,
што з вечнай вернасцю Радзіме
ляцяць да траў і туманоў»[11].

***Чытальнік:*** 1.
«Мне без радзімы,
як чайцы – без мора,
шэрай зязюлі –
без сіняга бору;
як травам – без ліўняў,
бярозам – без соку;
як ручаю –
без вусця й вытоку.

9 Калеснік, Ул. Паэтаў лёс і воля-вольніца // Полымя. 1994. № 12. С. 214.

10 Дубавец, С. Світае дрэва зелянінай // Літаратура і мастацтва. 1983. 2 верасня. С. 7.

11 Каско, А. Буслоў не ведаю бяздомных... // Скразная лінія : вершы. Мн., 1982. С. 10.

2.
Жыццёвы пачатак: хата,
прысады,
запознены статак;
матчына песня
на полі начуе...
Вочы заплюшчу –
І бачу, і чую...»[12].

***<u>Вядучы 1:</u>*** Наступны, выдадзены праз сем гадоў, зборнік названы таксама абстрактна – «Набліжэнне» (Мн., 1989). Змест кнігі сведчыць аб тым, што паэт набліжаецца да творчай сталасці. Тут прыходзіць тэма памяці, гістарычнай спадчыны і этычнай арыентацыі сучасніка ў свеце грамадскім, больш складаным за свет прыроды. А які моцны філасофскі строй у вершах Каско пра мову, слова, паэзію. Пра гэта, як і пра Радзіму, каханне і іншыя вечныя паняцці, можна гаварыць зноў і зноў, чытаць яшчэ і яшчэ, было б у гэтых словах высокае гарэнне і пачуццё.

***Чытальнік:*** «Яе светласць мова...
Чысты свет дзяцінства,
свет вясковы.
Золак звонкі.
Студняў, вёдраў перазовы.
Гаманкое лісце.
Яблык гупае ружовы.
Школа – з гулкім рэхам, водарам
сасновым.
Русакосая суседка
з «Родным словам»... Надвячорак.
Песня.
Зноўку – аб чым шчымлівым
і заўжды вясновым.
Прызба. Доўгія размовы.
Казка матчына:
«Жыў-быў каваль бядовы... »
Бацькаў успамін –
балючы і суровы...
Мова! Мова!
Памяці, і вернасці,
і сутнасці аснова»[13].

12 Каско, А. Роднае // Скразная лінія : вершы. Мн., 1982. С. 35–36.

13 Каско А. Яе светласць мова... // Набліжэнне : вершы. Мн., 1989. С. 44.

***Чытальнік:***

«Яно – душы першааснова:
там, у нязмернай глыбіні,
ёсць боль – боль нараджэння слова,
якога нельга запыніць.

Там слова – як жарынка праўды:
дыхне жыццё – яно ярчэй
зацепліцца... Ніякай рады –
душу нясцерпна апячэ.

Але, магчыма, і да шклянкі
пацягнешся, каб астудзіць
віном ці кропляй валяр’янкі...
Дарма: сумленню ў слове – быць!»[14].

***Чытальнік:***

«Навошта я расчульваць вас хачу:
не да сябе – да роснае травінкі,
да гэтага вясёлага дажджу,
да песень жней з палескае глыбінкі?

Да гэтага дзіцяці, што бяжыць
з далёкіх летаў сувязным нязменным
цераз курган, дзе вой-салдат ляжыць,
аддаўшы сны наступным пакаленням?..

Нібы няўцям, што сёння ўсё радзей
вы схільныя расчульвацца. Вы знаўцы
ўсіх тайн прыроды, сутнасці падзей,
нат мовы незямных цывілізацый.

За вашу мудрасць дорага плачу –
няведаннем уласнага дзівацтва,
чаму, нашто любові вас вучу
без боязі адсталым называцца.

Скуль тая цяга – праз абсяг вякоў
не забывацца і не цурацца звычкі
расчульваць сэрцы, быццам брацць з віроў
і саграваць астуджаныя знічкі?»[15]

14 Там жа. С. 21.

15 Там жа. С. 5.

***Чытальнік:*** «Зямля
не любіць пуставаць –
жадае быць жытнёвым полем;
не будзеш сеяць – і куколлем
пачне патроху зарастаць.
Душа
жыве надзеямі на шчасце;
будзіць не будзем – і ў мяшчанства
пачне паціхеньку ўзрастаць»[16].

***Вядучы 2:*** За кнігу «Час прысутнасці» (Мн., 1994) паэт атрымаў Літаратурную прэмію імя Аркадзя Куляшова. У кнізе назвычайна выразна акрэслена грамадзянскае аблічча паэта. Узмоцнена гучыць тэма адраджэння Беларусі. Лірычны герой належыць да тых, хто не толькі імкнецца жыць сумленна і годна, але жадае, каб з такімі высокімі патрабаваннямі ставіліся да жыцця і іншыя. Свайго роду духоўным крэда яго, бадай, можна ўспрымаць наступныя радкі «... калі, зямля, тваё прызванне – нас нарадзіць і пахаваць, дык жыць – людзей наканаванне...». Паспрабаваў сябе паэт і ў ліра-эпічным жанры. Паэма «Апазнанне», што поруч з вершамі ўвайшла ў кнігу, таксама сведчыць аб актыўнай грамадзянскай пазіцыі паэта, яго настойлівым жаданні разабрацца ў часе і ў самім сабе.

***Вядучы 1:*** Палеская тэма ў Алеся Каско, самастойна выпакутаваная, арыентыруецца не на новыя факты, а хутчэй на асэнсаванне лёсавай фатальнай падзеі з гуманітарных пазіцый. Атрымліваюцца жыццёвыя і шчымлівыя, шырокаахопныя вершы-маналогі. Уладзімір Калеснік пісаў: «Калі б рэдакцыя "Звязды" даверыла мне выбраць для анталогіі аднаго верша твор А. Каско, я прапанаваў бы верш "Палессем". Упэўнены, што ён стане хрэстаматыйным. Экалагічная драма Палесся ўвязана тут у духоўную драму Беларусі»[17]".

***Чытальнік:*** «Шаша – у абгон дваццатага
стагоддзя. Ані ляска.
Сухмень. Без былой зацятасці
аграрнік высліньваў сказ:
маўляў, ужо дакарчоўваем...
А пазіраў туды,
дзе вёска не зачароўвала –
прыхоўвала ад бяды
рот марлеваю палоскаю
ды сеяла цяжкі хлеб:
нібыта прышэльцы з космасу
спусціліся ў новы стэп.
Ах, што ж я? Мае спакрэвічы,
асілкі маёй зямлі...

16 Каско, А. Зямля не любіць пуставаць... // Набліжэнне : вершы. Мн., 1989. С. 19.

17 Калеснік, Ул. Паэтаў лёс і воля-вольніца // Полымя. 1994. № 12. С. 220.

Згадалася: Караткевіча,
нібы караля, вялі;
паказвалі, бы акропалі,
бары, курганы... Той год
далёкі быў ад Чарнобыля,
хаця й прыкрываўся рот.
Сямі- і васьмідзесятыя.
З паэтам бары сышлі...
Мы ехалі. Як распятыя,
віселі ў гары буслы.
І нема іх душы ўскрыквалі:
не стала б – ці ўберажом?! –
зямля пад белымі крыламі
зямлёй пад чорным крыжом»[18].

***Чытальнік:*** «Зноў я дома, дома, дома.
І паўзмрок, і цішыня.
І матуля, як мадонна,
ля глыбокага акна.

Кола месяца за ёю,
задуменнай, маладой,
залаціцца чысцінёю,
быццам німб над галавой.

Цень кідаюць дрэваў шаты,
ды з таго яшчэ відней:
за сцяною гэтай хаты
мне ні трошкі не вальней.

Што за воля ў падняволлі
грэшных дум і сумятні
біцца, бы вятрыска ў голлі,
абрываць, як лісце, дні?

Адно б доля захацела! Хату
загадзя прашу, каб адвеялі ад
цела толькі тут маю душу.

Толькі тут ёй будзе добра,
дзе паўзмрок і цішыня,
дзе матуля, як мадонна,
будзе вечна ля акна»[19].

18 Каско, А. Палессем // Час прысутнасці : вершы, паэма. Мн., 1994. С. 63.

19 Каско, А. Зноў я дома, дома, дома... // Час прысутнасці : вершы, паэма. Мн., 1994. С. 109.

***<u>Вядучы 2:</u>*** На ўсё жыццё запаў у памяць паэта светлы вобраз маці. «Ад яе, Аксені Васільеўны, я ўзяў не толькі аблічча, але ўражлівую (ранімую, бадай) натуру», – зазначае ён[20]. Яе вобраз – скразны ў творчасці Алеся Каско.

***Чытальнік:***

«Матуля! Холад на душы.
Не ноч за вокнамі, а пустка.
Ты зорных крошак пакрышы
ў густую цемру белым птушкам.

Матуля, холадна мне спаць.
Асеннія прыезд і водпуск
я зноўку змушаны аддаць
тузе і роздуму на водкуп.

Матуля! Холадна жыву,
хоць вершы – пра цяпло складаю.
Ці шмат шчаслівых мною?.. Вунь
табе пісаць нат забываю.

Матуля, золак настае,
а немачы ніяк не здужаць.
Не птушкі белыя мае –
халодны пух над хатай кружыць.

Матуля, чым і як, скажы,
мне птушак адкупіць у неба?
Ты ж ведаеш, як трэба жыць,
а я ўсяго – як жыць не трэба»[21].

***<u>Вядучы 1:</u>*** Трэці раздзел зборніка «Час прысутнасці» прысвечаны тэме кахання і называецца «Цябе я клікаў...». Інтымная лірыка –– лакмусавая паперка для творцы ва ўсе часы. У параўнанні з ранняй творчасцю, дзе тэма кахання гучала адухоўлена, далікатна, часта сарамліва, інтымныя вершы апошняга часу набылі драматызм і экспрэсію. Ратаваць мужчыну ад роспачы і самоты наканавана жанчыне («Балада граху»), ёсць у паэта Ён і Яна паасобку, якія не чуюць адно аднаго («Двое»), часам лірычны герой адчувае сябе пагарэльцам на пажары кахання.

***Чытальнік:***

«Мы сто разоў з табою назаўсёды
развітваліся роспачна і смела.
І сто разоў я, нематой свабоды
спустошаны, цябе ўяўляў памерлай.

20 Майсейчык, А. А. Вяртанне да родных вытокаў // Веснік Брэсцкага ўніверсітэта. 2001. № 3. С. 49.

21 Каско, А. Матуля! Холад на душы // Набліжэнне : вершы. Мн., 1989. С. 90.

І спахапляўся –– ва ўспаміне мройным
самотна-сіратлівымі начамі
цябе я клікаў словам невымоўным
адтуль, дзе вечны холад і маўчанне.

Знікаў і сам... Быў дол сыры і цвёрды,
і неба чарнатою навісала.
Я ўжо напраўду сто разоў памёр бы,
калі б ты кожны раз не ўваскрасала.

З жахлівасцю хаваю нашу тайну
мінулага, каб прышласці не збыцца:
пярэчу я сто першаму расстанню,
калі й са смерцю можна прымірыцца»[22].

***Чытальнік:*** «Захліснула і абязволіла,
абяскровіла сэрца ўшчэнт
маладою красой няўтоленай,
зыркім полымем на шчацэ.

Мне з'яўленне яе нядоўгае –
як набег, як душы разбой,
ды імклівае, хутканогае
не прашу: пачакай, пастой.

Пераможаны і разгублены,
суцяшаюся – не ўцячэ:
атруцілася кропляй любасці
губ маіх і маіх вачэй.

Будзе кропляю той пасечана,
ёй не ўвесці другога ў зман,
прыпадзе да каленяў нечыіх,
пераможаная сама.

А што будзе са мной, ніколечкі
не абудзе яе тады...
Што ж так колюцца,
што ж так колюцца
ў позніх травах яе сляды?»[23].

***Чытальнік:*** «Злева і справа –– у вокнах агонь,

22 Каско, А. Мы сто разоў з табою назаўсёды... // Час прысутнасці : вершы, паэма. Мн., 1994. С. 87.

23 Каско, А. Захліснула і абязволіла... // Дзядзінец : паэзія Берасцейшчыны. Брэст, 1999. С. 140.

двое чакаюць адно аднаго.
Злева і справа –– па ценю на шкле,
а па-за імі – хлеб соль на стале.
Бліскі святла растаюць у кутах,
слепіць жаданне, туляецца страх.
Вецер знянацку шумне на дварэ –
крыллем раскінуцца двое дзвярэй.
Ветру абое шапнуць наўздагон,
ды не пачуюць адно аднаго.
Будзе між імі шчымліва, бы жаль,
ноч неспазнанасці доўга ляжаць.
Пойдуць уранку па вулках блукаць
злева і справа – па розных баках.
Нехта ўгары скрозь імжу паглядзіць:
ці астудзіць іх, а ці блаславіць?»[24].

***Чытальнік:*** «Ты мне ў душу жыццё ўдыхнула,
як бура – у аціхлы стаў,
распешчаны пяском і мулам,
прыспаны шапаценнем траў.

Там ледзь пагойдваліся скалкі
ад тлустых рыб на глыбіні,
там для пакорлівай русалкі
сны ткалі вербаў карані.

Нічога не было жывога,
нічога –– з цёплае крыві...
І раптам – хвалямі трывога,
і жалю ўсплеск, і крыўды ўзвіў.

І прага жыць – глыбінным гулам,
віхурыстым, на самым дне...
Ты мне ў душу жыццё ўдыхнула,
калі пакінула мяне»[25].

***<u>Вядучы 2:</u>*** У 1996 годзе выходзіць яшчэ адзін паэтычны зборнік Алеся Каско з лічбавай назвай «45» (Брэст, 1996). Гэта было першае выданне літаратурнай серыі «Берасцейскае вогнішча», выпуск якой наладзілі мясцовыя кнігавыдавецтвы. У новай кнізе змешчаны 45 вершаў-роздумаў паэта аб праблемах жыцця і месцы творчага чалавека ў ім.

24 Каско, А. Двое // Час прысутнасці : вершы, паэма. Мн., 1994. С. 77.

25 Каско, А. Ты мне ў душу жыццё ўдыхнула... // Полымя. 2000. № 10. С. 62.

***Чытальнік:*** «Быт мой зноў неўладкаваны.
Шумная хада.
З крана ў дно чугуннай ванны
стукае вада.

Ты не дома,
дык ня войкні.
Волка. Ні рубля...
Хоць вазьмі зірні за вокны:
тут чыя зямля?

Памылілася дзьвярыма
вольнае дзяўчо:
– Вы не з Крыма?
– І не з Рыма,
захіні плячо.

Па-варшаўску ў калідоры
ёй гукаюць:
– Ходзь!
Гул гандлёвае канторы
ў люксе насупроць.
Захаці – даставіць рынак
імпарт і ў пасьцель...
Побач – інтэрвечарына:
госці ўсіх масьцей.

Там частуюць рускай горкай,
пьюць грузінскі чай.
Во, і родная гаворка:
– Дзядзька, не чапай!

Не заснуць... З аконнай рамы
выпукла, як флюс,
б'е неонавай рэкламай
назва «Беларусь»[26].

***Вядучы 1:*** Сапраўдная паэзія знаходзіць водгук у чытача чуйнага, шчырага, нават можа ўзрушыць абыякавага да яе.

***Чытальнік:*** «Ноч не ўтрымаецца на веццe,
за мокры дах – і ападзе;
прачнешся з думкай, што пачнецца
жыццё інакш, чым кожны дзень.

26 Каско, А. Гатэль // 45 : вершы. Брэст, 1996. С. 40–41.

Святлу памолішся – бязгрэшны
лёг промень; ён, нібы пяро,
акрэсліць будучыя вершы,
а ў іх і вера, і дабро.

За вокнамі, за снегам вішні
людзей пачуеш – галасам
адклікнешся: там з ночы выйшлі
світальна чыстымі, як сам.

Насустрач ім душой памкнешся
і, поўны роснай навізны,
адкрыешся і спатыкнешся
аб дзень мінулы, як яны.

Зноў пройдзеш з імі свары, звады,
зласлівасць, зайздрасць, і пры тым
ніхто не будзе вінаваты
ў выснове мудрай: хто святы?..
Так пражывеш жыццё яшчэ раз
і, выкляты самім сабой,
заснеш, памёршы ноччу шэрай,
каб уваскрэснуць раніцой»[27].

***Вядучы 2:*** Пэўныя набыткі мае Алесь Каско ў галіне літаратурнага перакладу. Ён перакладае з рускай, нямецкай, польскай моў, плённа працуе над перакладамі з македонскай. Дзякуючы яму, па-беларуску загучалі вершы такіх вядомых пісьменнікаў свету як А. С. Пушкін, А. Блок, І. Гётэ, Г. Гейнэ і інш., а таксама шматлікія творы ўкраінскамоўных сябраоў-паэтаў: В. Гэя, П. Маха, Ё. Струцюка, І. Чарнецкага, В. Стуса.

***Чытальнік:*** «Бадай, ніхто так не пранікае ў верш, не “абмацвае” яго да костачкі (да коскі), як перакладчык: ні сам аўтар, які працуе ў натхненні і не заўсёды да канца асэнсоўвае створанае ім інтуітыўна; ні тым болей чытач, які ўспрымае паэзію найперш эмацыянальна: ні крытык, які рэдка калі аналізуе верш асобна...»[28].

Давайце паслухаем, як прыгожа гучыць на беларускай мове адзін з вядомых вам вершаў А. Пушкіна:

***Чытальнік:*** «Я вас любил: любовь ещё быть может,
В душе моей угасла не совсем;
Но пусть она вас больше не тревожит;
Я не хочу печалить вас ничем.

27 Каско, А. Ноч не ўтрымаецца на веце... // Дзядзінец : паэзія Берасцейшчыны. Брэст, 1999. С. 134–135.

28 Каско, А. Назіранні за белымі воблакамі // Трохкроп’е. Брэст : Выдавецкі дом С. Лаўрова, 2001. С. 109.

Я вас любил безмолвно, безнадежно,
То робостью, то ревностью томим;
Я вас любил так искренно, так нежно,
Как дай вам бог любимой быть другим»[29].

***Чытальнік:*** «Я Вас кахаў: пачуцці тыя мусіць,
у сэрцы яшчэ цепляцца маім.
Ды хай нішто Вас болей не засмуціць,
я не хачу няволіць Вас нічым.
Я Вас кахаў употаю, нямотна:
ад рэўнасці згараў і ад тугі.
Я Вас кахаў так шчыра, так пяшчотна,
як дай жа Бог, каб Вас кахаў другі»[30].

***Вядучы 1:*** Чудзін – вёска мудрых казачнікаў. На пачатку мінулага стагоддзя вядомы асветнік і фалькларыст, супрацоўнік пецярбургскага Рускага музея Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі запісваў тут мясцовыя казкі, паданні, легенды, якія ўвайшлі ў адзін з ягоных зборнікаў «Сказки и рассказы белорусов-полешуков» (1911). Вось як гаворыць Алесь Каско аб гэтым: «Я ў захапленні быў ад тых казак! Але не пераставаў задаваць сабе пытанне: няўжо казачнікі жылі-былі дый адышлі ў мінуўшчыну?». Адказам на гэтае пытанне сталі цудоўныя дзіцячыя кнігі, якія былі падрыхтаваны Алесем Каско ўжо ў сталым узросце. У 2001 годзе ў выдавецтве «Юнацтва» пабачыла свет кніга сучасных беларускіх казак «Чыстага ўсё нячыстае баіцца», большасць з якіх аўтар запісаў у родных надланьскіх ваколіцах. А ў 2004 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга для дзяцей малодшага школьнага ўзросту «Два сонцы». Абодва зборнікі, і першы, і другі, вельмі хутка ўвайшлі ў рэпертуар школьнай мастацкай самадзейнасці і лялечных тэатраў. Вершы, вымаўлянкі, казкі... Яны напоўнены любоўю і замілаванасцю да свету дзіцяці:

«Пад ветразем – буслінным пёркам –
то ў пене хваляў, то праз мель
імчаўся з весняга падворка
па ручаіне карабель.
За ім паўз сад, уздоўж паркана,
хлапчук упарта бег услед,
не бег, даруйце: капітанам
ён плыў у дальні-дальні свет.

Заплыў за крайні двор, за вёску,
і ўбачыў бляск лугоў, ракі,
і лотаці гусцістай росквіт,
і дрэў купчастых астраўкі.

29 Пушкин, А. С. Я вас любил: любовь ещё, быть может... // Русская лирика XIX века. – М., 1986. – С. 65–66.

30 Пушкін, А. С. Я Вас кахаў: пачуцці тыя мусіць... / А. С. Пушкін ; пер. з рус. А. Каско // Заря. – 1999. 4 февр.

Залюбаваўся: колькі дзіва
ён за ваколіцай адкрыў!
Стаяў і пазіраў шчасліва.
А ветразь? Сам далей паплыў"»[31].

***Вядучы 2:*** Наступная кніга А. Каско «Трохкроп'е» (Мн., 2001) разам з вершамі, перакладамі змяшчае нататнікавыя запісы пра паэзію і творцаў. Шчыры ў лірычных перажываннях, аўтар не асцерагаецца іроніі, палемічнай завостранасці.

***Чытальнік:*** *«Калі паэт пачынае іранізаваць? Калі ў гневе і смутку ад дурноты людское разрываецца на часткі і не можа разарвацца, не можа супрацьстаяць ёй папросту, без насмешкі. Або тады, калі пакутуе ад дурноты* ў самім сабе (самаіронія)*»*[32].

Ці вось яшчэ: *«Так і хочацца сказаць некаторым шматпішучым: не ўсё, што напісалі, нясіце ў друк. Нешта пакіньце і для нашчадкаў. Няхай яны памучацца, чытаючы»*[33].

***Вядучы 1:*** У 2008 годзе ў выдавецтве «Литература и Искусство» выйшаў калектыўны зборнік вершаў «Трохперсце», які аб'яднаў творы вядомых берасцейскіх паэтаў

М. Рудкоўскага, М. Пракаповіча і А. Каско. У гэтым жа годзе аўтары зборніка атрымалі Літаратурную прэмію імя У. Калесніка. Ідэя сабраць паэзію трох яскравых аўтараў пад вокладкаю аднога зборніка не выпадковая. У прадмове да зборніка добра аб гэтым сказаў Г. Праневіч: «У коле блізкіх па духу людзей, цесных сяброўскіх і творчых кантактах закладвалася і ўзнікала адчуванне агульнага духоўнага поля радзімы, якое затым напаўнялася шматлікімі чалавечымі сувязямі, бо, працуючы ў вясковых школках, раённых газетах, на абласным тэлебачанні, яны, як ніхто, аб'ездзілі ўздоўж і ўпоперак усё Палессе, уведалі культуру, мову, звычкі і норавы мясцовых людзей, славутыя мясціны і краявіды роднага краю, з якім зрасліся душою, які стаў часткаю іх уласнай біяграфіі»[34].

***Чытальнік:***

«Што трэба вяртанцу? Палоска
былой вечаровай зары,
ды ціхая ў прыцемках вёска,
ды шолахі ў родным двары.

Нікуды цяпер не спазніцца,
Дык стой і ўбірай гэты свет,
які, хай ты быў чужаніца,
не страціў ранейшых прыкмет.

31 Каско, А. Пад ветразем // Два сонцы : вершы, вымаўлянкі, казкі. Мінск, 2004. С. 8.

32 Каско, А. Назіранні за белымі воблакамі // Трохкроп'е. – Брэст, 2001. – С. 102.

33 Там жа. С. 108.

34 Праневіч, Г. Вартавыя краю // Трохперсце : зборнік вершаў паэтаў Берасцейшчыны / склад. Л. М. Галубовіч. – Мінск, 2008. – С. 5.

Нябёсы ўсё тыя ж, і зоркі,
і вецер, і жыта, і нат
у свет гэты выпусціў зёлкі
яму не ўласцівы асфальт.

Рака абмялела, ды бераг
збярог чараты і груды,
дзе ты не ўсвядомлена бегаў
і збег – не ўсвядоміў, куды.
Не ўсіх дагукаешся блізкіх,
спаткаеш далёкіх не ўсіх,
аднак жа ўзгадаеш да рыскі,
прысніш іх, нібы ўваскрасіш.

Свет родны – і літасць, і лучнасць:
бач, з позняй часіны, вярсты
вярнуў, даў адчуць неўміручасць,
якой калісь выракся ты"»[35].

***<u>Вядучы 2:</u>*** І вось, нарэшце, пабачылі свет зборнікі «Нічога больш» (Брэст, 2011) і «Прыадхінуты небасхіл» (Мн., 2012). Гэта лірычная споведзь паэта пра сябе і свет, пра ўзнёслыя і трагічныя праявы быцця, пра тое, што дапамагае чалавеку жыць, верыць і спадзявацца. Творы напоўненыя магутнай жыццёвай энергіей, шчырасцю.

***Чытальнік:*** «Сваю – даснаваў я да спадчыннай долі,
а потым з крывёю яе адрываў
ад сэрца радкамі –
нічога не выказаў болей.

Я з кожнай магілай сябе крыжаваў,
звыкаўся з адвечнай людскою юдоляй
і жаль свой агучваў –
нічога не выказаў болей.

Ставала мне радасці: ветру і полю,
птушкам і вёснам не раз тураваў
сваім падгалоскам –
нічога не выказаў болей.

35 Каско, А. Што трэба вяртанцу? // Трохперсце : зборнік вершаў паэтаў Берасцейшчыны ; склад. Л. М. Галубовіч. Мінск, 2008. С. 141.

Я ў радасці плакаў, у болю трываў
і гневу свайго не трымаў у падполлі,
сябе я выказваў –
нічога не выказаў болей.

І музу быць лепшай, чым ёсць, не няволіў,
і сам ёй у рабства сябе не даваў.
Ці стаў я паэтам?
Нічога не выказаў болей,
чым тое, што ў лёсе сваім прачытаў»[36].

***__Вядучы 1:__*** Напярэдадні свайго 60-гадовага юбілею А. Каско ў адным з інтэрв'ю адзначыў: *«Кожны творца, паэт тым больш, перш за ўсё, выказвае праз слова сябе. А чытач успрымае тое, што блізкае яму, што датычыцца асабіста яго. Для гэтага важна, каб паэт сапраўды перажыў напісанае. Не трэба вымучваць сябе, калі не пішацца. Лепей выкарыстаць гэты час для таго, каб напоўніць душу – перажываннямі, радкамі іншых паэтаў, мудрасцю іншых людзей. І тады паэзія прыйдзе сама. Я ніколі не крывіў душой, быў сумленны ў сваіх вершах. Інакш кажучы, які я ёсць у жыцці, такі я і ў паэзіі – няхай чытачы ўспрымаюць мяне менавіта так»[37].*

***Чытальнік:*** «Дакрануся да лісціка – падае,
злаўлю павуцінку – ірвецца,
ступлю на грудок – пад нагамі плыве.
Адно нерухомеюць вусны твае,
калі прытуляюся...
Яны й пераконваюць: восень».

«Было гнятліва, скрушна ўчора,
а сёння – Бог даў – дзень як дзень.
За шклом з дажджынак незлічоных
грак мільгануўся – чорны-чорны,
як быццам вылецеў з грудзей»[38]

***__Вядучы 2:__*** Будзем спадзявацца, што прыхільнікі творчасці Алеся Каско парадуюцца яшчэ не аднаму зборніку вершаў паэта. А напрыканцы ўзгадаем цудоўныя радкі ад Ніны Мацяш, якія яна прысвяціла свайму добраму сябру Алесю:

36 Каско, А. Сваю – даснаваў я да спадчыннай долі... // Нічога больш : вершы і пераклады. Брэст, 2011. С. 5.

37 Алесю Каско – 60 // Ганцавіцкі час [Электронный ресурс]. – 2011. Режим доступа: http://www.ganc-chas.by/by/page/society/1399?tpl=3. Дата доступа: 17.11.2013.

38 Каско, А. З «настрояў» // Трохперсце : зборнік вершаў паэтаў Берасцейшчыны ; склад. Л. М. Галубовіч. – Мінск, 2008. С. 134.

***Чытальнік:*** «Што было, і што ёсць, і што будзе –
Хай ступае каноўнай ступою:
Толькі вопыт, які тут здабудзем,
Забіраем у вечнасць з сабою.

Хай жа дух твой і далей шчыруе,
Праўду, волю, натхненне мілуе!»[39].

39 Мацяш, Н. Што было, і што ёсць, і што будзе... // Я вас люблю... – Брэст, 1998. – С. 40.

# ЗМЕСТ

Даведачнае выданне

**Алесь Каско**
*Біябібліяграфічны паказальнік*


| | |
|---|---|
| Рэдактары | А. М. Мяснянкіна (агул. рэд.)<br>В. А. Гарбачэўская |
| Адказны за выпуск | І. С. Малашкевіч |
| Тэхнічны рэдактар | Н. У. Раеўская |
| Камп'ютарная вёрстка | І. П. Суворава |

Падпісана да друку 26.12.2013 . Фармат 60х84/16.
Папера афсетная. Гарнітура Cambria. Друк афсетны.
Умоўн. друк. арк. 8,4. Улік.-выд. арк. 9,12.
Тыраж 300 экз. Заказ № 481.

ТАА «Паліграфіка»
Пасв. № 1/22 ад 16.08.13.
224007 Брэст, вул. Стафеева, 21.
Тэл./факс: (0162) 492679,
e-mail: poligrafika-brest@yandex.ru

Надрукавана ў ТАА «Паліграфіка».
Пасв. № 2/2 ад 16.08.13.
224007 Брэст, вул. Стафеева, 21.


